БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 25 (13557)

15—21 чэрвеня 1992 года

Цана 3 рублі

# Дзеці будуюць КАПІТАЛІЗМ






МАТЭРЫЯЛ ПАД ТАКОЙ НАЗВАЙ ЧЫТАЙЦЕ НА СТАРОНЦЫ 4.

У НУМАРЫ:



## РАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

Няшчасная Марыяна! Бачыла б яна, як галосяць на Лепельшчыне каровы пад час дэманстрацыі папулярнага мексіканскага фільма "Багатыя таксама плачуць"...

Увесну фільм пачаў замініаць працы, бо нават вясковыя жыхары, якія былі заняты пасадкай бульбы на сваіх агародах, кідалі кошыкі аб зямлю і беглі да тэлеэкранаў.

Што ж, бульбу можна пасадзіць і пазней. А вось некаторым даяркам з Несінскай малочнатаварнай фермы нельга дараваць, што не прыйшлі ў абедзены перапынак даіць кароў. Пагаласілі небаракі ды так і вярнуліся на пашу нядоенымі. Адміністрацыя саўгаса "Бароўка" вылічыла па 230 рублёў з зарплаты ў баламутных даярак. А кіраўнікі тэлебачання, пэўна, улічыўшы шматлікія просьбы бурнарагатых, перанеслі трансляцыю фільма на іншы час.

Васіль ХАВАНСКІ.

## Правінцыйная хроніка

### Нямецкія канікулы

Цікава пачаліся летнія канікулы для школьнікаў Полацка. Справа ў тым, што ёсць у Германіі горад-пабрацім Полацка — Фрыдрыхсхафен. Улады двух гарадоў вырашылі зрабіць падарунак дзецям.

Як паведаміў намеснік старшыні Полацкага гарвыканкама Аляксандр Камароў, у жніўні чакаецца прыезд у Полацк групы школьнікаў з Германіі. А ў горад Фрыдрыхсхафен паехала ўжо адпачываць група беларускіх дзяцей. У яе ўвайшло 20 школьнікаў, якія няддрэнна валодаюць нямецкай моваі і дасягнулі поспехаў у вучобе.

Франц Лявіцкі.

### Гарэў "Рассвет"...

Светла ў Талачыне. Напачатку майскі феерверк наладзіў чатырохгадовы хлапчук ва... уласным хляве. Куды падзеліся хлеў і карова — да гэтага часу не можа зразумець. А не так даўно ярка гарэў на Талачыншчыне "Рассвет". Гэта вучань Рэчкаўскай школы падпаліў калгасны цялятнік. Пахла шашлыкамі — смажылася паўсотні бычкоў. Канікулы працягваюцца!..

(Ул.інф.).

### Сваё, а не чужое

Новыя вуліцы Пінска гарадская камісія па найменаванню вуліц прапануе назваць так: вул. Гагарына, вул. Жукава, вул. Карбышава, вул. Машынабудаўнікоў. Застаецца толькі спадзявацца, што пінчукі змогуць прапанаваць узамен нешта сваё, а не чужое.

І. Бараноўскі.

## Нашы суседзі

### У Расіі

- пачынаюць збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Б. Ельцына
- спынілі дзейнасць вайсковых трыбуналаў
- будуць выдаваць зарплату шахцёрам залатымі манетамі вартасцю ў 25 і 50 тысяч

### У Эстоніі

- у бліжэйшы панядзелак мяркуюць правесці грашовую рэформу
- пачынаюць прадаваць валютныя аблігацыі ўнутранай пазыкі

### У Латвіі

- з 1 ліпеня ўводзяць візавы рэжым уезду

### На Украіне

- зацвердзілі ўласную сістэму дзяржаўных узнагарод
- абвясцілі міжнародны конкурс праектаў пертварэння Чарнобыльскай АЭС у экалагічна бяспечную сістэму

## Памяць

### Апошні герой

Першую сваю песню ён напісаў у 18 гадоў, апошнюю — у 28. За дзесяцігоддзе паспеў стаць класікам савецкай рок-музыкі, за свае 28 — многага не паспеў...

21 чэрвеня Віктару Цою споўніцца трыццаць. Я не магу сказаць "споўнілася б". Ды, напэўна, і не я адзін. Таму што чалавек жыве да той пары, пакуль жыве памяць аб ім.

Цой прыйшоў у музыку ў пачатку васьмідзесятых. Адразу ён не меў шумнага поспеху, але штосьці прываблівала ў яго песнях, не закранутых тэкставымі і музычнымі штампамі. Менавіта гэта азначала ўласны почырк аўтара.

З году ў год, з кожным альбомам рос поспех групы "Кіно" і яе лідэра. У іх адрас было сказана многа добрых слоў. Але сказаць больш, чым сказалі яго песні, немагчыма.

У нядзелю ля ўсім вядомай сцяны Цоя ў Мінску збяруцца тыя, для каго ён назаўсёды застанецца ў сэрцах. Яшчэ раз прагучаць песні Віктара, яшчэ раз успомняць таго, хто для многіх стаў ідэалам, кумірам...

21 чэрвеня — Дзень Памяці Віктара Цоя.

Франц Лявіцкі.

## Спорт

### Волаты ў фуражках

дый не толькі яны збяруцца 30 чэрвеня ў Гомелі на ІІ Спартакіяду МУС РБ па службова-прыкладных відах спорту. Гледачоў чакае незвычайнае відовішча: у праграме, сярод іншага, будзе мнагабор'е, фігурнае ваджэнне матацыкла і рукапашны бой.

П. Скарамуш.

## Стоп-факт

### Беспрацоўе — не прывід

Як паведамілі ў Дзяржкампрацы РБ, у беларускія службы занятасці ўжо звярнулася каля 72 тысяч чалавек. Беспрацоўнымі прызнаны 71 працэнт з іх.

Звыш пяці тысяч чалавек атрымліваюць грашовую дапамогу па беспрацоўю. Невядома толькі, як яны існуюць на гэтыя грошы.

### Нашы "зайцы" — яшчэ не грошы?

Ужо крыху больш як месяц мінуў з таго часу, як увайшлі ў абарот разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Пакуль што так званыя "беларускія грошы" не дасягнулі пажаданага аўтарытэту. З насцярожанасцю адносяцца да іх не толькі на рынках, але і ў камерцыйных крамах.

Не карыстаюцца даверам яны і ў беларускіх фальшываманетчыкаў. Як паведамілі ў Міністэрстве ўнутраных спраў РБ, фактаў яўнай падробкі разліковых білетаў пакуль што не выяўлена.

### У падтрымку патрыятычнага афіцэрства

Так называецца заява, якую прыняла днямі Управа Беларускага Народнага Фронту. Кадравая палітыка Міністэрства абароны,— сцвярджаецца ў ёй,— скіраваная не на падтрымку беларускіх кадраў, а супраць іх. У заяве выказваецца пратэст супраць звальнення з пасады палкоўніка У. Савынка — намесніка старшыні Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў.

### Камандзіроўка на вайну

З паездкі ў Нахічэванскую аўтаномную рэспубліку вярнуліся народныя дэпутаты Беларусі С. Навумчык і В. Кучынскі. 16 чэрвеня яны правялі прэс-канферэнцыю, дзе з болем распавялі пра тое, што ўбачылі на ўласныя вочы. Дэпутаты зазначылі, што "Астанкіна" неаб'ектыўна адлюстроўвае падзеі, звязаныя з армяна-азербайджанскім процістаяннем. 37 афіцэраў-беларусаў звярнуліся з просьбай аб дапамозе да Вярхоўнага Савета РБ. Гэты дакумент чытайце на 3-й старонцы.

### Беларусам — беларускія ўзнагароды

Пасля абвяшчэння Рэспублікай Беларусь сваёй незалежнасці перад яе кіраўніцтвам паўстаў шэраг пытанняў. Адно з іх — пытанне аб уласных узнагародах.

Як паведаміў Уладзімір Клаусаў, загадчык аддзела ўзнагарод Вярхоўнага Савета, свае ўзнагароды на Беларусі з'явяцца і даволі хутка. Вырашацца гэтае пытанне будзе восенню на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.

Ужо ёсць прапановы ўвесці званне "Герой Беларусі", Ордэн Рэспублікі, ордэн "За мужнасць і адвагу"...

### Аршанская даўніна

Пад такой назовою выйшла нядаўна ў выдавецтве "Полымя" кніга. Прачытайце — не пашкадуеце, бо не кожнаму выпадае час ды магчымасць апынуцца на малой радзіме Караткевіча, паблукаць сцяжынкамі гэтага цудоўнага краю. Аўтар кнігі — рэгуліроўшчык радыёапаратуры з Оршы Аляксандр Шынкевіч. Краязнаўства — яго хобі.

(Паводле паведамленняў нашых карэспандэнтаў.)

### Хау ду ю ду, Віцебск?

Па Віцебску ходзіш — нібы па Брадвею. Калі ласка, у шапіках можаш набыць свежы нумар "Нью-Йорк таймс". Дзвесце экземпляраў рускамоўнага варыянта газеты паступілі нядаўна ў горад. Кажуць, неўзабаве сюды прыбудзе і "Файнэншл таймс". Хіба ж месца тут "Вясёлцы", "Маладосці", "Чырвонай змене", "Полымю"? Казаў той, "со свиным рылом да в калашный ряд"? Адным словам, "Віцебск, гуд бай, я тут чужы".

Уладзімір МІХНО.

## КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Уладзімір ВОЙЦІК, намеснік дырэктара КТБ "Белмікрасістэмы" НВА "Інтэграл":*

— Размовы пра рынак вядуцца даўно. Аднак, нягледзячы на шырокую прапаганду рыначных адносін, людзі пакуль што не зусім разумеюць, што гэта такое. Калі ў эканоміцы штосьці робіцца, то ў плане ўспрымання насельніцтвам рыначных адносін — поўная цемната. Адбываецца цікавая рэч: жывём у новым, дэмакратычным грамадстве, а псіхалогія ў нас старая, якая панавала ўвесь ранейшы час. Мяркую, што якія б законы ні прымаліся, аб чым бы ні гаварылі дэпутаты — ніякіх перамен у лепшы бок не будзе, пакуль мы не памяняем свой погляд на тое, што адбываецца вакол нас.

Сутнасць новых адносін у наступным: чалавеку выгадна рабіць тое, што прыносіць карысць грамадству.

Ва ўсіх цывілізаваных краінах вітаюць ініцыятыву. У нас жа, як гэта ні смешна, яна караецца. Так было раней, так засталося й цяпер. Мы не хочам зразумець, што рынак — гэта не толькі ўласнасць, а яшчэ і ініцыятыва, якая нясе прагрэс.

*Віктар СЯМАШКА, загадчык сектара асабістых падсобных і фермерскіх гаспадарак БелНДІ эканамічных праблем:*

— Перамены на вёсцы, калі іх не падтрымае моладзь, асуджаны на гібель. Пакуль што хлопцы і дзяўчаты не спяшаюцца завесці сваю гаспадарку. На сённяшні дзень толькі каля дваццаці працэнтаў фермерства складае моладзь. Чаму так здараецца? Прычына гэтага, на мой погляд, у недахопе грошай для пачатку вядзення гаспадаркі. Моладзь, у сваёй большасці, патрэбных вялікіх грошай пакуль што яшчэ не паспела зарабіць. Ну, а, акрамя грошай, ім часта не хапае вопыту, ведання ўсяго цыкла сельскагаспадарчых работ, валодання сумежнымі спецыяльнасцямі...

Ёсць тут і яшчэ адзін момант — сацыяльны. Звычайна фермерскае падвор'е размяшчаецца ў баку ад вёсак. І чалавеку, асабліва маладому, вельмі цяжка пакінуць абжытае месца ў вёсцы і пераехаць на ферму. Бо там жа ні крамы, ні школы... Баяцца людзі адарванасці, прывыклі жыць і працаваць разам. А ўвогуле справа ідзе. І трэба спадзявацца, што настане час — і маладыя таксама пойдуць у фермеры.

*Чэслаў ШУЛЬГА, намеснік старшыні бюро міжнароднага маладзёжнага турызму "Спадарожнік":*

— Апошнім часам, калі прыадкрыліся граніцы і ўсё больш разгортваецца камерцыя, за мяжу хлынуў паток нашых суайчыннікаў. Праз наша турыстычнае бюро штодзень накіроўваецца ў падарожжа ў сярэднім па дзве групы ў складзе 40 чалавек кожная. Часцей пуцёўкі набываюць арганізацыі, прадпрыемствы. Найбольш часта турысты адпраўляюцца ў Польшчу (каля 70 працэнтаў ад агульнай колькасці), Чэха-Славакію, Турцыю, Грэцыю — у так званы "шопінг-тур", дзе асноўнай мэтай нашых суайчыннікаў з'яўляецца купля-продаж, а не агляд прыгожых мясцін названых краін. Калі кошт пуцёвак у гэтыя краіны па цяперашніх цэнах невысокі (напрыклад, кошт паездкі на тры дні ў Польшчу складае каля 2500 рублёў), то Бельгію, Фінляндыю, Нарвегію, Галандыю наведвае значна менш нашых суайчыннікаў...

Што датычыць транспартавання турыстаў, то наша бюро мае тры аўтобусы "Мерседэс", якія поўнасцю адпавядаюць міжнародным стандартам. Мы таксама заказваем для турыстаў месцы і на цягніку. Пасля распаду Саюза мы захавалі сяброўскія сувязі з іншымі турыстычнымі бюро, і нам часта прапаноўваюць розныя маршруты для падарожжаў калегі з іншых рэгіёнаў былога Саюза. Адным словам, пуцёвак хапае, былі б грошы.

# Палітыка — без моладзі, дзяржава без будучыні

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.

*З 11 па 14 чэрвеня ў Кіеве адбыўся першы Усеўкраінскі кангрэс маладых палітыкаў. У ім удзельнічала звыш трохсот прадстаўнікоў такіх шматлікіх сёння палітычных плыняў, рухаў, партый.*

Не забыліся арганізатары кангрэса й на гасцей. Іх запрасілі, як кажуць, амаль з усяго свету. Вось далёка не поўны пералік краін, ад якіх прыехалі ў Кіеў маладыя лідэры-пачаткоўцы на ніве прафесійнай палітычнай дзейнасці: ЗША, Англія, Польшча, Венгрыя, Чэха-Славакія, Германія, Расія, Беларусь. Ад нашай рэспублікі на Усеўкраінскі кангрэс ездзілі А. Лябедзька, А. Шыпко, народныя дэпутаты Беларусі, і І. Лапша, супрацоўнік Белдзяржуніверсітэта. Усе трое бяруць удзел у нядаўна створанай Асацыяцыі маладых палітычных дзеячаў Беларусі. Гэтае згуртаванне (дарэчы, пра яго "ПАС" паведамляў у сваім перадапошнім выпуску), зарэгістраванае Мінюстам у якасці грамадскай арганізацыі. Такім чынам, АМПД не з'яўляецца чарговай навастворанай партыяй і не мае на мэце барацьбу за ўладу. Асацыяцыя мяркуе займацца вышкаленнем маладых палітычных лідэраў, дапамогай іхняму прафесійнаму сталенню, бо ў палітыцы як і ў іншых галінах дзейнасці,— востры недахоп прафесіяналаў.



Варта заўважыць, што ідэя правядзення кангрэса нарадзілася ў Беларусі і адсюль, так бы мовіць, эмігрыравала на Украіну. Але ўсё па парадку. Пад час прыезду ў Мінск украінскай парламенцкай камісіі па справах моладзі ейных прадстаўнікоў прымала маладзёжная падкамісія Вярхоўнага Савета Беларусі. Беларускія дэпутаты шчодра падзяліліся з гасцямі сваімі напрацоўкамі, планамі, ускладаемымі на будучыню. Сярод найцікавейшых прапаноў была й сапраўдная знаходка — ідэя правядзення першага (не толькі для Беларусі, але ўвогуле для ўсіх рэспублік колішняга Саюза) кангрэса палітыкаў-пачаткоўцаў. І, як выявілася спакваля, ідэю мы папросту "падарылі" цікаўным да ўсяго новага суседзям. Але Бог з ёй, з ідэяй, урэшце не запатэнтаваная ж яна. Няварта й шкадаваць пра лаўры першаадкрывальнікаў. Не на гэта ўпікаюць заснавальнікі АМПД. Сумна тое, што ў нас арганізацыя гэткага самага кангрэса натыкнулася на шматлікія перашкоды, створаныя бюракратычнай цяганінай, і ўвогуле — на суцэльную абыякавасць "вярхоў". Відаць, беларускім кіроўцам больш даспадобы разважаць пра маладзёжныя праблемы, чымся разам з маладымі ўпарта крок за крокам, вырашаць іх. Ізноў мы змушаны канстатаваць, што шлях ад ідэі да ейнай рэалізацыі па-ранейшаму пралягае праз церні яснавельможнай абыякавасці... Дык пакуль тая ідэя ўвасобіцца ў канкрэтнай справе, патрэба ў апошняй знікае: настае час для новых ідэй і іншай, адпаведна, чыннасці. Вось і атрымліваецца, што свет ідэй ды свет людзей аніяк няздольныя паразумецца.

Такім чынам, украінцы "клюнулі" на ідэю, што прыйшла ў галаву беларускім хлопцам, правесці рэспубліканскі кангрэс для моладзі, якая цікавіцца палітыкай. Ледзь вярнуліся ўкраінскія парламентары з Мінска дамоў — паляцелі па ўсім свеце лісты-запрашэнні на сапраўды неардынарны маладзёжны форум. Запрасілі й беларусаў. Апошнім заставалася толькі пазайздросціць той увазе, якую ўдзяляюць маладзёжным праблемам кіраўнікі самасційнай Украіны. Мяркуйце самі. На кангрэсе прысутнічалі і спадар Краўчук, і Генеральны пракурор, і Галоўны суддзя, і плойма міністраў. Можна доўга пералічваць прозвішчы і пасады кіраўнікоў, якія не палічылі для сябе за лішняе прысутнічаць на кангрэсе і пазнаёміцца са сваёй будучай зменай, з тымі, каму заўтра вырашаць лёс Украіны і яе народа. Кангрэс шырока асвятляўся ў прэсе, па радыё і ТБ, і вызначаўся аглядальнікамі няйнакш як "вялікая падзея ў палітычным жыцці Украіны".

Для Украіны, як і для ўсіх былых саюзных рэспублік, надзвычай актуальная праблема выхавання інтэлекту, прафесіяналізму. Тыя, хто стаіць на чале ўлады і апазіцыя сышліся ў сваіх меркаваннях на агульным вынеску: калі моладзь не будзе актыўна ўдзельнічаць у палітычным працэсе, то Украіна не мае будучыні. Да таго ж зроблена спроба аб'яднаць погляды прадстаўнікоў розных маладзёжных арганізацый па самых вострых балючых пытаннях: зносіны з суседзямі і г.д.

Беларускія хлопцы надзвычай актыўна ўдзельнічалі ў працы кангрэса. Яны прапанавалі стварыць інфармацыйна-кансультатыўны цэнтр маладых палітыкаў у межах СНД — своеасаблівы банк інфармацыі, задзел для сумеснага правядзення мерапрыемстваў. Прапанавана ў стратэгічным плане выходзіць на стварэнне Усходне-Еўрапейскай асацыяцыі маладых палітыкаў. Паводле папярэдніх даных, балгары і венгры прыхільна паставіліся да апошняй ідэі.

"Маладыя палітыкі павінны пазбегнуць старых памылак, асабліва калі яны дэмакраты," — падкрэсліў адзін з удзельнікаў форуму. У Беларусі неабходна шукаць цікаўных да палітыкі людзей і даваць ім магчымасць рэалізоўваць свой ідэал. Сёння АМПД ускладае надзеі на дапамогу кіраўнікоў Беларускай дзяржавы — увосені мае адбыцца Усебеларускі кангрэс, аналагічны кіеўскаму. Замест фіналу хочацца пералічыць дзяржаўныя структуры, на якія не пашкадавала грошай Украіна, хаця ейнае эканамічнае становішча ненамнога адрозніваецца ад наскага: Камісія па справах моладзі Вярхоўнага Савета, Міністэрства па справах моладзі, Украінскі навукова-даследчы інстытут па праблемах моладзі...

# Паміж двух агнёў

## Зварот афіцэраў-беларусаў Нахічэванскага гарнізона да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

ПАВАЖАНЫЯ ДЭПУТАТЫ Вярхоўнага Савета, да Вас звяртаюцца афіцэры-беларусы, якія праходзяць службу на тэрыторыі Нахічэванскай аўтаномнай рэспублікі, уваходзячай у склад Азербайджана. Усе мы, кожны ў свой час, давалі прысягу на вернасць Радзіме — Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Паколькі цяпер гэтай дзяржавы ўжо не існуе, мы лічым, што нашай Радзімай з'яўляецца Рэспубліка Беларусь. З-за такіх абставін наша злучэнне перайшло ў падпарадкаванне Расіі. Такім чынам, па словах генерала Громава, мы тут абараняем стратэгічныя інтарэсы Расіі, часам нават цаной уласнага жыцця. У нас, у беларусаў, натуральна, узнікае пытанне: "Каму і дзеля чаго мы служым?"

На прыкладзе нашага злучэння мы бачым, як урады незалежных дзяржаў, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь, адклікаюць сваіх ваеннаслужачых тэрміновай службы на свае тэрыторыі для далейшага праходжання службы. Украіна таксама вырашае пытанне пра вяртанне на тэрыторыю рэспублікі афіцэраў. Да 1 ліпеня 1992 года ўсе афіцэры-украінцы пераходзяць у распараджэнне Міністэрства абароны Украіны. Мы, афіцэры-беларусы, таксама жадаем праходзіць службу на тэрыторыі сваёй рэспублікі, але пра нас чамусьці ніхто не ўспамінае, хаця напачатку гэтага года генерал-палкоўнік П. Чавус афіцыйна заявіў па Беларускаму тэлебачанню, што афіцэры-беларусы, якія праходзяць службу ў гарачых кропках, у тым ліку і ў Закаўказзі, у бліжэйшы час будуць вернуты на Радзіму. Але аніводзін афіцэр-беларус не быў адкліканы з Нахічэванскага гарнізона для праходжання службы ў Рэспубліцы Беларусь, а тыя, хто спрабаваў вырашыць пытанне пра перавод, сутыкнуліся з бюракратычнымі перашкодамі з боку кадравых органаў як Беларусі, так і Закаўказзя.

Тое, што мы перажылі і перажываем цяпер, у сродках масавай інфармацыі не асвятляецца. Толькі ў сувязі з абвастрэннем армяна-азербайджанскага канфлікту за апошнія паўгода тут загінула 14 афіцэраў і прапаршчыкаў нашага гарнізона, 4 прапалі без вестак. Становішча ў Нахічэвані працягвае абвастрацца. Адносіны мясцовага насельніцтва да афіцэраў і членаў іхніх сем'яў крайне негатыўныя. У сувязі з гэтым мы былі змушаны адправіць свае сем'і і асабістую маёмасць на радзіму. Зараз мы фактычна знаходзімся ў становішчы заложнікаў, і толькі дзякуючы мудрай палітыцы і пастаяннаму клопату з боку Гейдара Аліева ўдаецца пазбегнуць масавага кровапраліцця.

Воінскі абавязак, афіцэрскія гонар і сумленне не дазваляюць нам кінуць усё і дызерціраваць на Радзіму. Нашыя нервы напружаны гранічна.

На аснове ўсяго вышэйсказанага мы просім і патрабуем тэрміновага палітычнага вырашэння пытання аб адкліканні афіцэраў-беларусаў Нахічэванскага гарнізона для праходжання службы ў Рэспубліцы Беларусь да 31 жніўня 1992 года.

Калі вас сапраўды хвалююць нашыя жыцці і лёсы, то пытанне аб пераводзе неабходна вырашыць у найкарацейшыя тэрміны.

Нас не так ужо і многа, каб гэтае пытанне склала вялікую праблему для кадравых органаў МА Беларусі.

З нецярпеннем чакаем станоўчага вырашэння.

**Ад рэдакцыі:** Ніжэй тэксту Звароту ідзе пералік прозвішчаў, засведчаны асабістымі подпісамі афіцэраў. На чале спіса, пад нумарам 1 — генерал-маёр Расціслаў Слабашэвіч, той самы Слабашэвіч, якому прапанавалі ўзначальваць Нахічэванскую ваенную акругу. Аплата, зразумела, у валюце. Ён адмовіўся... Калі чакаць вырашэння пытання да наступнай сесіі, то страшна падумаць, некаторых ужо можа не быць сярод жывых. Такім чынам, неабходна тэрміновае скліканне Прэзідыума Вярхоўнага Савета і неадкладнае вырашэнне лёсу грамадзян Рэспублікі Беларусь. Прапанова аб вывадзе не толькі вайскоўцаў тэрміновай службы, але й афіцэраў, дарэчы, прагучала на мінулай сесіі Беларускага парламента, але праігнаравалася дэпутатамі. Пакуль яшчэ ёсць час выправіць памылку. Прымаючы ў сябе Заходнюю групу войск, дзе шмат грамадзян іншых рэспублік СНД, ці мае права Беларусь забывацца на сваіх сыноў? Пэўне, наспеў час абмену афіцэрамі паміж дзяржавамі СНД, зразумела, па жаданню ваеннаслужачых. Перш-наперш гэта тычыцца "гарачых" рэгіёнаў. Да таго ж варта зазначыць, што па звестках падаўна праведзенага сацыялагічнага апытання, Беларускае войска мае ў сваім складзе толькі 30 працэнтаў беларусаў.




# ВЫРАТАВАЛЬНАЯ БУТЭЛЬКА для нашай эканомікі?

*"Пепсі-Кола Інтэрнэшнл" з'яўляецца міжнародным вытворцам напояў у складзе кампаніі "Пепсі Ко Інкарпарэйтэд", сусветнай карпарацыі, якая выракляе прадукты спажывання і абвясціла аб прыбытках у 19,3 мільярда даляраў у 1991 годзе. ПКІ прадае канцэнтраты для вытворчасці безалкагольных напояў на 600 заводах у 165 краінах і рэгіёнах, за выключэннем ЗША і Канады. Большасць напояў выраб ляецца на незалежных заводах, хаця ПКІ таксама з'яўляецца ўладальнікам заводаў, якія вырабляюць бутэлькі, у некалькіх краінах. ПКІ займае месца лідэра па аб'ёму вытворчасці ў 40 краінах і рэгіёнах. Яе найвялікшыя міжнародныя рынкі ўключаюць Мексіку, Аргенціну, Венесуэлу і Егіпет.*

Журналістаў, як, зрэшты, і ўсю грамадскасць Беларусі, паставілі перад фактам: фірма "Пепскі-Кола Інтэрнэшнл" разам з "Істмэн кэмікл", аб'яднаннямі "Хімвалакно" і шаўковых тканін арганізавалі на Беларусі сумеснае прадпрыемства па вытворчасці пластыкавай упакоўкі для прахладжальных напояў. І хоць факт гэты даволі прыемны — нарэшце і ў нас з'явяцца прыгожыя двухлітровыя пляшкі з пластыку са смачнай "Пепсі-Колай" унутры — але існуюць і свае "але"... Журналістаў цікавілі шматлікія праблемы і пытанні, якія яны імкнуліся задаць кіраўніцтву новастворанага прадпрыемства, што атрымала назву "Белпак", толькі разуменне таго, што справа зроблена і пагадненне аб яго адкрыцці падпісана ўжо стрымлівала іх імпэт.

Падпісанне пагаднення праходзіла ва ўрадавай рэзідэнцыі пад Мінскам, і яго наведаў нават Старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч, што вельмі здзівіла журналістаў, але адначасова прадэманстравала, на якім высокім узроўні арганізоўваецца новае сумеснае прадпрыемства.

"Відавочна, вас заінтрыгавала мая цікаўнасць "Белпакам", — звярнуўся С.Шушкевіч да журналістаў, — і вы хочаце мяне спытаць, што я больш люблю: "Пепсі-Колу" альбо прыгожую пластыкавую ўпакоўку, у якую яе наліваюць? Я люблю піць "Пепсі" з гэтай пластыкавай бутэлькі і хачу, каб усе жыхары Беларусі мелі магчымасць смакаваць гэты напой".

Амерыканцы шчасліва заўсміхаліся і, напэўна, дзеля таго, каб замацаваць свой поспех, падарылі Станіславу Шушкевічу двухлітровую бутэльку "Пепсі-Колы". Тэлеаператары імгненна нацэлілі свае відэакамеры, а фотарэпарцёры назаўжды зафіксавалі гэты момант на сваёй фотастужцы. Я, безумоўна, не супраць таго, каб Станіслаў Шушкевіч піў "Пепсі-Колу", і сам, прызнацца, аднёс з гэтай прэс-канферэнцыі дажаты некалькі прыгожых бутэлек з гэтым чароўным напоем. Але хачу нагадаць адзін момант з гісторыі заключэння гандлёвай згоды паміж (тады яшчэ) СССР і кампаніяй "Пепсі". Калі ў 1959 годзе Дональд М.Кендал, прэзідэнт Кампаніі "Пепсі-Кола Інтэрнэшнл", арганізаваў стэнд "Пепсі" ў складзе Амерыканскай нацыянальнай выставы ў Маскве і віцэ-прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан, і савецкі прэм'ер Мікіта Хрушчоў наведалі гэтую выставу, фотаздымкі Хрушчова, які піў "Пепсі", з'явіліся ў газетах усяго свету і зрабілі неблагую рэкламу кампаніі. І я не здзіўлюся, калі падобныя здымкі (толькі цяпер ужо з прэм'ерам Беларусі) з'явяцца на старонках газет свету. Толькі ж гэта рэклама, а за яе, як вядома, трэба плаціць.

Але вернемся да кампаніі "Белпак".

Намечаная магутнасць гэтага сумеснага прадпрыемства — 25 тысяч тон поліэтылентэрафталату альбо ПЭТу, які пойдзе на вытворчасць прыкладна 500 мільёнаў бутэлек у год. Зыходны матэрыял, выраблены ў Магілёве "Белпакам", стане паступаць у Маскву, дзе з яго будуць выдзімаць бутэлькі і напаўняць "Пепсі-Колай", якая будзе разыходзіцца па ўсёй тэрыторыі СНД. Палова прадукцыі для вытворчасці бутэлек пойдзе ў краіны Усходняй і Заходняй Еўропы за валюту. Мяркуецца, што ў наступныя пяць год тавараабарот гэтага сумеснага прадпрыемства складзе 100 мільёнаў даляраў. Гэта сумеснае прадпрыемства на тэрыторыі Садружнасці будзе першым выкарыстоўваць перадавую тэхналогію вытворчасці ўпаковачных матэрыялаў, вопыт маркетынга і пашыраныя магчымасці экспарта прадукцыі, дзякуючы дзвюм амерыканскім і дзвюм беларускім фірмам.

Сумеснае прадпрыемства "Белпак" будзе вырабляць ПЭТ на існуючым заводзе аб'яднання "Хімвалакно" ў Магілёве. Звярнуўшыся да Івана Афанасьевіча Яфанава, генеральнага дырэктара МПА "Хімвалакно", я запытаўся:

— Усё ж хімічная вытворчасць вельмі небяспечная ў экалагічным плане, ці не пагоршыць стварэнне гэтага сумеснага прадпрыемства і вытворчасць яго прадукцыі экалагічнага становішча ў Магілёве?

— Справа ў тым, што мы не пашыраем магутнасці завода ў сувязі з выпускам новай прадукцыі, — адказаў І.А.Яфанаў. — Наколькі вы ведаеце, сённяшняе эканамічнае становішча ў СНД прымушае завод скарачаць вытворчасць. Рабочыя застаюцца без працы. І гэтая прадукцыя будзе выпускацца на тых самых магутнасцях, на якіх мы працавалі раней.

А на пытанне, хто будзе сачыць за выкананнем тэхналогіі і экалагічнай сітуацыі, журналісты атрымалі адказ, што гэта давяраецца рабіць беларускаму боку. Не ведаю, як каму, а ў мяне з'явілася заклапочанасць на гэты конт, ведаючы шматлікія прыклады невыканання экалагічных патрабаванняў нашымі прадпрыемствамі. Але як бы там ні было, на сённяшні дзень для нас адкрыццё "Белпака" з'яўляецца вялікім поспехам і ў нейкім сэнсе паратункам у час жорсткага эканамічнага крызісу, што ахапіў рэспубліку. Безумоўна, "Белпак" не выратуе і не выцягне ўсю Беларусь з багны. Але існуе надзея, што ўслед за "Пепсі-Колай" і іншыя кампаніі пажадаюць заняцца інвесціраваннем у нашу эканоміку.

Карацей кажучы, да нас амерыканцы прыйшлі, каб (паводле іх сцвярджэння) вырашыць нашыя праблемы з упакоўкай і пашырыць свой рынак.

Пытаюся ў аднаго з прадстаўнікоў фірмы "Пепсі-Кола":

— Ці плануеце вы і на самай справе ўжо ў бліжэйшы час атрымаць прыбытак, альбо хочаце толькі заняць месца на беларускім рынку і ўсім астатнім канкурэнтам на Захадзе сказаць: "Гэта месца наша, і вам тут няма чаго рабіць"?

— Безумоўна, мы плануем атрымліваць прыбытак, інакш справа не будзе вартая шэлегу. Таксама мы спрабуем і заваяваць ваш рынак. А што датычыць канкурэнтаў... Калі нават мы і скажам ім, што вам няма тут чаго рабіць, то яны наўрад ці нас паслухаюць.

А ўвогуле, наколькі я зразумеў, кампанія "Пепсі-Кола" жыве па прынцыпу "Не рызыкнеш — нічога не атрымаеш". Хаця, безумоўна, укладваць сёння грошы ў эканоміку Беларусі, якая жыве па неадрэгуляваных эканамічных законах, — справа даволі небяспечная. Але, як сказаў Крыстофер А.Сінклер, прэзідэнт кампаніі "Пепсі-Кола Інтэрнэшнл", "у актыўнасці ёсць свая рызыка, але і ў безыніцыятыўнасці яна таксама ёсць".

Бутэлька, якую будуць вырабляць у Магілёве, як вядома, аднаразовага выкарыстання. На Захадзе гэтыя бутэлькі збіраюцца і ідуць на перапрацоўку, пасля якой ператвараюцца ў ваду і паветра. Але ў нас, як сказаў Іван Яфанаў, "на першай фазе" гэтага не будзе. Існуе і яшчэ адна перасцярога. Ходзяць чуткі, што на Захадзе пластыкавая бутэлька аднаразовага выкарыстання — учарашні дзень. Там, наадварот, спрабуюць вяртацца да шкляной тары шматразовага выкарыстання. Але, прабачце, ці ёсць у нас іншае выйсце, акрамя таго, як прыняць гэтую "перадавую" тэхналогію — беларускія заводы безалкагольных напояў (ды і алкагольных таксама) часцяком прастойваюць з-за недахопу тары. Ды і валюта, зрэшты, нам зараз вельмі патрэбная. Я мяркую, што нацыянальныя шклозаводы наўрад ці спыняць сваю працу з-за адкрыцця "Белпака". Не так ужо і шмат яны плануюць выпускаць сваёй тары, улічваючы, што разыходзіцца яна будзе па ўсіх краінах СНД, ды й да ўсяго пойдзе ў Еўропу.

Існуе небяспека, што сусветнавядомая "Пепсі-Кола" выцесніць з беларускага рынку нацыянальныя напоі. Але, як адказаў Крыстофер А.Сінклер, таемна ўсміхнуўшыся, на ўсіх нацыянальных рынках іншых краін "Пепсі-Кола" займае не больш як 50 працэнтаў агульнага аб'ёму, астатняе складаюць нацыянальныя прахладжальныя напоі. Будзем спадзявацца, што так будзе на самай справе і з беларускага рынку не знікне "Лясная паляна" і іншая смаката.

Зміцер ЛУКАШУК,
эканамічны
аглядальнік "ЧЗ".




Прэс-канферэнцыю вядуць прэзідэнт "Пепсі-Кола Інтэрнэшнл" Крыстофер А.Сінклер і дырэктар аб'яднання "Хімвалакно" Іван Яфанаў.

Фота Я.КОКТЫША.

*Замалёўкі з натуры*

# ДЗЕЦІ БУДУЮЦЬ КАПІТАЛІЗМ

Калі дарослыя будавалі камунізм, дзеці ў дабравольна-прымусовым парадку ўдзельнічалі ў аперацыі "Мільён — Радзіме". Звалася гэта працоўным выхаваннем. Цяпер дарослыя ствараюць рынак. А дзеці... Яны таксама прыстасоўваюцца да сітуацыі, асвойваючы пакрысе "новыя спецыяльнасці". "Калегі" дзяцей амерыканскіх мільянераў (якія, як завяраюць нас зараз, з 12 год працуюць) гандлююць газетамі і кветкамі, а апошнім часам, сабраўшыся кампаніямі па 5 чалавек, мыюць машыны каля гатэля "Арбіта". Гатэль гэты новы, і размяшчаюцца тут шматлікія офісы. Народ прыязджае важны, багаты... Вось і ідзе работа.

Недзе а трэцяй гадзіне з суседніх дамоў пачынаюць збірацца хлапчукі. Пры іх — няхітрыя "прылады працы": вёдры, анучы, губкі, шчоткі, "палівачкі", пральны парашок. Падыходжу, пытаюся: міліцыя не чапае? "Ганяе",— адказваюць,— абвінавачвае: бруд разводзім. Заробкі — неблагія, пашчасціць — то і па 80—100 рублёў за дзень выйдзе. Рэкеціры? Раней былі — хлопцы крыху старэйшыя. А зараз зусім няма. Дарэчы, прычыну іх знікнення я ўгледзела ў асобе "не кволага" хлопца год дваццаці, што ахоўваў адну з груповак падлеткаў.

— Ахова?— пытаю.

— Так, ахова.

— Брат чыйсьці?

— Не, так, сябар агульны. (Сябар сябрам, а працуе, вядома, за працэнцік адлічэння).

Здавалася, усё й добра: вось табе і працоўнае выхаванне, і дзеці даведваюцца з маленства пра кошт грошай. Але, і тут не абышлося без "але"...

Але школьныя выкладчыкі наракаюць: замест таго, каб вучыць урокі, школьнікі цэлы дзень тырчаць ля гатэля. Рэпрэсіўныя санкцыі таксама не дапамагаюць: куды там "школьнай палітыцы" да "дваровай эканомікі". Тым больш, што і на перакананні дарослых у малетніх "бізнесменаў" маецца адказ: "Вы, настаўнікі, інстытуты скончылі, а зарабляеце менш, чым мой сусед без адукацыі, што ў "камку" гандлюе". І не растлумачыш дзіцяці, што мыццём машын усё жыццё не пражывеш і што годдругі — і кіёскі камерсантаў-спекулянтаў знікнуць. А патрэбныя будуць адукаваныя людзі. Ды толькі час будзе змарнаваны...

А. Воліч.

*Гісторыя без "белых плям"*

*Доўгія дзесяцігоддзі ў беларускай савецкай гістарыяграфіі панавала палажэнне, што ў канцы XVIII стагоддзя Беларусь уз'ядналася з Расіяй і тым самым ажыццявілася векавая мара беларускага народа — жыць у адзінай сям'і з брацкім рускім народам. Аднак, аналізуючы архіўныя дакументы (у тым ліку і дасюль невядомыя), толькі цяпер разумееш, якія ідэі ў сапраўднасці панавалі тады на нашай зямлі, якія ўскладаліся планы на будучыню.*

# ТАЙНЫЯ ГУРТКІ ГІМНАЗІСТАЎ

У 1795 годзе Рэч Паспалітая была канчаткова падзелена паміж трыма ваюючымі дзяржавамі — Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Беларусь гвалтоўна далучаюць да імперыі Раманавых. Як сведчаць архіўныя дакументы, на тэрыторыі Беларусі пачалі ўзнікаць тайныя арганізацыі — Віленская, Мінская і іншыя. Актыўна дзейнічалі іх адгалінаванні ў Брэсце, Кобрыне. Яны згуртоўвалі паланізаваную беларускую шляхту, каталіцкае і уніяцкае духавенства і зноў жа, згодна з архіўнымі звесткамі, ставілі сваёй мэтай адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

У навучальных установах створанай у 1803 годзе Віленскай вучэбнай акругі (у склад якой уваходзілі і беларускія землі) у 10—20-я гг. XIX ст. узніклі тайныя суполкі. Яны мелі культурна-асветніцкі накірунак і сталі адной з форм барацьбы прадстаўнікоў беларускай шляхецкай моладзі таксама за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года на аснове Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

Панаванне польскай нацыянальнай ідэі ў асяроддзі беларускай шляхецкай моладзі ў 20-я гады XIX стагоддзя адбывалася на канкрэтна-гістарычным фоне, з улікам глыбокага ўплыву на іх польскай нацыянальнай культуры і польскага складу жыцця. Гістарычны лёс беларускага народа ў канцы XVII — 20-х гадах XIX ст. склаўся такім чынам, што ён амаль не меў у асяроддзі сваёй шляхты прадстаўнікоў, якія б усведамлялі сваю прыналежнасць да яго.

Баючыся, што пасля гвалтоўнага далучэння Беларусі да Расіі апошняя пачне русіфікатарскую палітыку, польска-каталіцкія колы ўзмацнілі паланізацыю Беларусі. Акадэмік АН Беларусі Ю.Астроўскі справядліва адзначаў, што "замежныя пласты палякаў, каталіцкая царква ніколі не думалі здаваць ёй (Расіі. — С.Т.) свае пазіцыі ў сферы адукацыі (Беларусі. — С.Т.), бо яны добра разумелі, што пакуль будзе панаваць польскі дух, дагэтуль беларуская шляхта будзе лічыць сябе польскай". Гэтаму спрыяла кіраўніцтва Віленскай вучэбнай акругі. Куратар акругі, польскі магнат, сябар Аляксандра I князь Адам-Ежы Чартарыйскі і яго аднадумцы імкнуліся да пашырэння сферы польска-каталіцкага ўплыву на Беларусі, якую яны лічылі спрадвеку польскай тэрыторыяй. Канчатковай мэтай А.Чартарыйскага было аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Адукацыя на Беларусі ў 20-я гг. XIX ст. знаходзілася ў руках ксяндзоў каталіцкіх ордэнаў езуітаў, піяраў, дамініканаў, кармелітаў, бернардзінцаў, францысканаў. Навучанне вялося на польскай мове, беларуская мова не ўжывалася. Яна была пазбаўлена права на самастойнае існаванне як з боку кіраўніцтва Віленскай вучэбнай акругі, так і з боку рускага царскага ўрада. Як польскія, так і рускія вялікадзяржаўныя шавіністычныя колы размывалі нацыянальны патэнцыял беларускага народа. П.Жуковіч адзначаў, што "панаванне польскай мовы ў аўдыторыях і ў штодзённым жыцці павінна было схіляць студэнтаў на карысць польскіх інтарэсаў і імкненняў". Ніхто з аднадумцаў Адама Чартарыйскага нават і не думаў пра беларускасць у народнай асвеце.

Беларуская шляхта ў гэты час усведамляла сябе як польская. Пра гэта сведчыць той факт, што яна выступала за адраджэнне Рэчы Паспалітай менавіта на аснове Канстытуцыі 3 мая. Канстытуцыі, якая скасавала саму назву "Вялікае княства Літоўскае" і дэкларавала, што ўся тэрыторыя краіны з'яўляецца Польскай. Згодна з майскай Канстытуцыяй, "Рэч Паспалітая абодвух народаў" ператваралася ў "Рэч Паспалітую Польскую".

У гэты час актывізуецца грамадскі рух сярод гімназічнай моладзі на Беларусі. Ён таксама меў польскі накірунак. 6 мая 1823 г. рэктар Віленскага універсітэта Ю.Твардоўскі паведамляў А.Чартарыйскаму, што 3 мая вучань 5-га класа шасцікласнай Віленскай гімназіі 15-гадовы ўраджэнец Вількомірскага павета граф Міхал Плятэр "увайшоўшы ў клас, сказаў: "Сёння 3 мая, дзень Канстытуцыі". Затым падышоў да дошкі і напісаў па-польску: "Віват Канстытуцыя!". Затым вучань Іван Чаховіч (ураджэнец Завілейскага павета, 15 гадоў. — С.Т.) дабавіў "3 мая". Йозэф Кулакоўскі (ураджэнец Кобрынскага павета, 20 гадоў. — С.Т.) дабавіў: "О, якія салодкія ўспаміны для нас, палякаў".

10 мая 1823 года на сцяне Дамініканскага касцёла ў Вільні таксама з'явіўся надпіс па-польску "Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая. Смерць дэспатам. Дай Божа, каб гэта спраўдзілася".

Вышэйшыя царскія саноўнікі рускага паходжання надавалі польскім праявам ва ўчынках гімназічнай моладзі Вільні сур'ёзную ўвагу. Пра гэта сведчыць той факт, што 14 мая 1823 года намеснік Царства Польскага вялікі князь Канстанцін Паўлавіч, які, згодна з указам Аляксандра I ад 1822 года аб забароне тайных гурткоў у Царстве Польскім, Беларусі, Літве і Украіне, сачыў за выкананнем апошняга, пісаў цару аб падзеях у Віленскай гімназіі.

Непрынязнасць рускага панавання на Беларусі ва ўчынках беларускай гімназічнай моладзі праяўлялася ў непавазе да асобы рускага цара. 14 снежня 1824 г. вучань 5-га класа шасцікласнай Свіслацкай гімназіі Антон Глагер "на друкаваных малітвах, наклееных на дошках для 5 і 6 класаў, закрэсліў словы "Гасудар", а вучань Павел Зянковіч словы яшчэ больш зачарніў".

Польскі грамадскі рух сярод гімназічнай моладзі Беларусі развіваўся ў гэты час пад уплывам ідэй французскай рэвалюцыі 1789-1794 гг. Гімназісты звярталі ўвагу на вывучэнне гісторыі апошняй. Гэта тлумачылася, трэба меркаваць, растучай цікавасцю да праблемы магчымасці прымянення палітычнага насілля, у прыватнасці тактыкі індывідуальнага тэрору. У 1823 годзе вучань 3-га класа Віленскай гімназіі Дамінік Губята заявіў: "Калі з'явіцца сітуацыя, што імператар Аляксандр будзе блізка каля мяне, то я стрэлю ў яго". У 1824 годзе ў Кейданах, дзе знаходзілася вучылішча, у рукі паліцыі трапіла папера, напісаная 18-гадовым вучнем Я.Малесонам. У ёй гаворыцца: "Няхай што хочуць з намі робяць, князь Канстанцін не ўцячэ ад нашых рук". На допыце 4 лютага 1824 г. Я.Малесон заявіў, што ў яго быў намер забіць Канстанціна з пісталета, калі ён будзе праязджаць цераз Кейданы". Тлумачачы мэты мяркуемага забойства брата рускага цара, Малесон гаварыў: "Народ польскі (да якога ён сябе адносіў. — С.Т.) заўсёды шчасліва жыў пад цараваннем сваіх каралёў, цяпер вымушаны пераносіць няволю такую жорсткую, што гарыць жаданнем помсты. Хутка белы арол, вырваўшыся з нутра Расійскай пачвары, узнясецца на гарызонт з лаўровай перамогай". Як бачна, Я.Малесон ідэалізаваў Рэч Паспалітую і не бачыў розніцы паміж яе народамі. На следстве высветлілася, што вучні Кейданскага вучылішча ўраджэнец Вільні Йозэф Цір (17 гадоў) і Эдвард Краснавецкі (18 гадоў) таксама мелі дачыненне да мяркуемага замаху на вялікага князя Канстанціна, таму што "да Расіі займелі вялікую нянавісць за ўвядзенне праўлення свайго ў польскую зямлю. Канстанціну труну зробім". Як даносіў 3 лютага 1824 года Віленскі губернскі пракурор Батвінка кіраўніку следчай камісіі па справе тайных арганізацый у Віленскай вучэбнай акрузе, М.М.Навасільцаву, вучань Кейданскага вучылішча 19-гадовы Міхал Наткевіч пісаў: "Як забілі Паўла... так заб'ём Аляксандра і Канстанціна".

Грамадскі рух сярод гімназічнай беларускай моладзі насіў апазіцыйны характар царызму. Ён спалучаў у сабе палітычную і культурна-асветную накіраванасць. Гэтак жа як студэнцкія гурткі ў Віленскім універсітэце і гімназічныя гурткі ў Свіслацкай гімназіі гімназісты, не аб'яднаныя ў таварыствы, лічылі, што вывучэнне польскай гісторыі і мовы з'яўляецца абавязковай умовай барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Выхаванне кіраўніцтвам Віленскай вучэбнай акругі гімназічнай беларускай моладзі ў духу фанатычнага польскага патрыятызму, разбурэнне этнічнай самасвядомасці патэнцыяльных сіл беларускага нацыянальнага адраджэння супала ў гэты час з рэвалюцыяй у Іспаніі, Італіі (Неапалі, П'емонце), паўстаннямі ў Грэцыі, узнікненнем дзекабрысцкіх арганізацый у Расіі. Гэта таксама не магло не адбіцца на польскім накірунку грамадскага руху сярод гімназістаў Беларусі.

Паланізатарская дзейнасць кіраўніцтва Віленскай вучэбнай акругі аказала адмоўнае ўздзеянне на тэмпы фарміравання беларускай нацыі. Яна замарудзіла інтэнсіўнасць росту аднаго з галоўных носьбітаў этнічнай самасвядомасці — беларускай шляхецкай моладзі.

Сяргей ТАЛЯРОНАК,
навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі
АН Беларусі.



# Ураджаі "Нашай нівы"

*У той далёкі 1907 год на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння здымаўся яшчэ даволі сціплы ўраджай. Але які-ніякі ён быў.*

Створана нацыянальная партыя (Беларуская сацыялістычная грамада), напярэдадні 1905 года імператар Мікалай II зняў абмежаванні на карыстанне беларускай мовай, у Пецярбургу заснавана першае беларускае легальнае выдавецтва ("Загляне сонца і ў нашаваконца"), выдадзены першыя кнігі на беларускай мове... Калі прыгадаць, дык і нямала ўжо было. А вось сваёй, беларускай, паўнакроўнай і паўнапраўнай легальнай газеты яшчэ не было.

У верасні 1906 года пачала выходзіць "Наша доля", але праз тры месяцы яе закрылі. З выйшаўшых за гэты час шасці нумароў пяць былі арыштаваны. Так што, лічы, да шырокага кола чытачоў яна і не дайшла.

А 10 (23) лістапада 1906 года выйшаў першы нумар "Нашай нівы". Вось у яе асобе і быў прадстаўлены перыядычны беларускі друк на Новы 1907 год.

Цяжкі клопат узвальвала на свае плечы беларуская газетка. "З-паміж усіх еўрапейскіх гасударстваў Расея найменш мае навукі, найбольш цёмная, а да найцямнейшых часцей яе належыць і Белая Русь,— заяўлялі рэдактары-выдаўцы.— Мы, пастанавіўшы шырыць навуку, хочам, каб рассеяла яна цёмнасць... Нам здаецца, што наша работа не прападзе дарма...

Былі дагэтуль сілы, але яны неяк спалі. Цяпер яны адазваліся і абяцаюць сваю помач. Мы зразумелі, што маем пад сабою цвёрды грунт. Рэдакцыя верыць, моцна верыць, што яшчэ большыя сілы адклікнуцца, што памогуць нам у рабоце..." і сілы вакол "Нашай нівы" гуртаваліся слаўныя.

Як адна з важнейшых задач, бачылася нашаніўцам арганізацыя беларускай нацыянальнай школы. У чацвёртым нумары за 1906 год Янка Белы, расказаўшы, як палякі на ўласныя ахвяраванні адкрываюць польскія школы ў Літоўскім краі, заклікаў усіх, "як адзін чалавек, стаць за гэтую работу, залажыць сваю "Матку Белае Русі", не жалець, знасіць да яе ўсё, чым багаты, і тады мы завядзём свае беларускія школы".

Не ведалі нашы прадзеды, што той жа клопат ляжа на плечы іх нашчадкаў праз восем дзесяцігоддзяў. Слаўная нацыянальная палітыка "кіруючай і накіроўваючай", якая, здавалася, з народам, якая, верылася, сам народ, якая аказвалася і замест народа, прывяла да таго, што ў сталіцы беларусаў і Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы. На досвітку перабудовы адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці таксама пачыналася як барацьба за нацыянальную школу. Цяпер мы ўвачавідкі можам ацаніць, наколькі гэта складаная справа, нават пры тым, што ёсць адпаведныя закон і дзяржаўная праграма. Інертнасць масавай грамадскай свядомасці, эканамічныя цяжкасці, нізкі агульнакультурны ўзровень гарадскога і вясковага жыхара... Ох, як цяжка кранаецца з месца воз!

...З году ў год расла колькасць падпісчыкаў "Нашай нівы", актыўна слалі свае допісы ў рэдакцыю добраахвотныя карэспандэнты, большала кагорта "пісараў" і паэтаў. Яшчэ бракавала ім майстэрства, ведання мастакоўскіх сакрэтаў, але ўжо былі сярод першай літаратурнай руды і свае залацінкі, і важлівыя злiткі-самародкі.

Першая беларуская газета імкнулася задаволіць самыя шырокія запатрабаванні чытача. Яна асвятляла падзеі ў дзяржаўным і міжнародным, палітычным і эканамічным, грамадскім жыцці імперыі; пісала пра культуру, знаёміла з навінкамі сельскагаспадарчай тэхнікі, тлумачыла некаторыя найбольш пашыраныя навуковыя пытанні і абавязкова змяшчала на сваіх старонках вершы, апавяданні — арыгінальныя і перакладныя.

Тон некаторых артыкулаў нагадваў стараннае тлумачэнне старэйшага—меншаму, але ніколі не набываў прыніжальнага характару. Гэтае пачуццё такту ніводнага разу не здрадзіла рэдактарам-выдаўцам. Нават пад час непрыемных спрэчак з "истинно-русскими", калі паўставала патрэба абараніць святую справу нацыянальнага адраджэння. А здаралася гэта не так і рэдка.

На шчодрыя субсідыі царскай казны выпускалася нямала газет і часопісаў, якія прапагандавалі погляды чарнасоценцаў і, не стамляючыся, палівалі брудам самаадданую працу нашаніўцаў.

Для барацьбы з "беларускімі сепаратыстамі" "истинно-русские" абралі самую балючую кропку ў нацыянальнай справе кожнага народа — мову. На той час не было яшчэ ўнармаванага беларускага правапісу, добра распрацаваных мастацкіх сродкаў, тэрміналогіі, таму беларуская мова, натуральна, не вытрымлівала параўнання з высокаразвітай рускай, што, на думку некаторых, і даказвала яе непатрэбнасць. Адныа толькі шкада было чарнасоценцам — што "беларусы не мелі і не маюць свайго Гогаля, які, падобна гэтаму вялікаму пісьменніку, здолеў бы, захоўваючы вернасць агульнарускай мове, так па-мастацку і праўдзіва паказаць жыццё беларусаў, як гэта зрабіў Гогаль адносна маларосаў" (Крестьянин. 1911. № 32).

А яшчэ раней у тым жа часопісе Цярэнцій Бажэлка адкрыта і самаўпэўнена заяўляў: "Па майму глыбокаму перакананню патрэбы ў кніжнай беларускай мове няма... Навошта прыдумваць сваю абласную кніжную мову, калі існуе стройная тэорыя ўпаўне роднаснай нам, беларусам, мовы рускай..." (1907, № 42).

Ведаючы гэта, чытаючы шматлікіх сённяшніх "інтэрнацыяналістаў", пераконваешся, што гісторыя не можа вырвацца з кола і да прыкрага банальна паўтараецца.

Але, нягледзячы на злыя языкі і ліхое вока, "Наша ніва" штогод збірала багаты ўраджай. Хутка віншаванні з Новым годам ішлі ўжо не толькі з розных куткоў Беларусі, але і далёка з-за яе межаў: Бельгіі, Злучаных Штатаў, Аўстрыі, Францыі, Сібіры, Масквы, Пецярбурга, Кіева і інш.

"Наша ніва" не проста будзіла ад сну беларуса, бараніла яго інтарэсы, але, як магніт, прыцягвала і гуртавала вакол сябе найбольш актыўных прыхільнікаў беларускай нацыянальнай культуры. Усё гэта, разам узятае, і давала маральнае права рэдакцыі напярэдадні свайго пятага Новага года з гонарам заявіць: "Наша ніва" — гэта люстра душы, думак і патрэб Беларусі".

На жаль, менавіта арыентацыя на "патрэбы Беларусі", няспынны клопат пра нацыянальныя справы беларусаў і сталі прычынай таго, што "Наша ніва" і ўвесь нашаніўскі рух былі абвешчаны нацыяналістычнымі. У 1931 годзе нават адбылася спецыяльная дыскусія гісторыкаў-марксістаў, як з гонарам яны сябе называлі, па ацэнцы першай беларускай газеты. Было вырашана, што яна стала "ўпоперак буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі", а таму аказалася контррэвалюцыйнай, нацыянал-ліберальнай, буржуазнай.

Абвінавачванне тым больш недарэчнае, што выдаўцы "Нашай нівы" заўсёды ясна выказваліся па гэтаму пытанню. "Са стараны Расіі, — пісаў у перадавіцы "Нашай нівы" яе рэдактар А.Уласаў (№ 9 ад 25.04.1908), — да нас прыходзіць нямала добрага: велікарусы маюць сваю вялікую культуру, думкі лепшых рускіх людзей аб свабодзе, аб правах чалавека, як свет сонца шмат памаглі прабудзіцца нашаму краю і мужыку-беларусу ад векавечнага сну і наш мужык па-праўдзе збудзіўся таксама, як і мужык рускі, польскі, літоўскі. Ад рускай культуры мы бяром навуку, знанне абедзвюма рукамі. Што ёсць добрага, карыснага ў рускіх, гэта беларусы ўводзяць і ў сваё жыццё. Ізноў жа Польшча мае таксама вялікую культуру і беларусам вельмі добра скарыстаць з гэтага, колькі можна...

І беларусам, беручы культуру і ад рускіх, і ад палякаў, няма ніякай патрэбы забываць, што яны беларусы, адракацца ад сваёй нацыі і перакідацца к чужой".

Добрае пацвярджэнне гэтага — сам змест газеты. У яе публікацыях вы не знойдзеце зняважлівага стаўлення хаця б да адной з нацый, ці адмежавання ад іх. Наадварот, рэдакцыя ўдзяляла шмат увагі нацыянальна-вызваленчым рухам народаў Расіі.

Вельмі важна зразумець, што "беларускі нацыяналізм", як здавён часу ў савецкай гісторыі класіфікаваліся вышэйназваныя з'явы, ніколі не быў ваяўнічым, агрэсіўна настроеным да іншых нацый. Сёння, па-за крызісам, здаецца, не засталося ніводнай з галін жыццядзейнасці чалавека. У такой сітуацыі праваквацыйныя заявы некаторых былых і цяперашніх "дзеячаў" пра абуджэнне і пашырэнне на Беларусі ідэй нацыяналізму небяспечныя. Чарговая кампанія "палявання за ведзьмамі" будзе мець яшчэ больш сумныя вынікі, як у 30-я.

Патрабуе пераасэнсавання і сам тэрмін "нацыяналізм". У марксісцка-ленінскай філасофіі пад ім разумеюць пропаведзь нацыянальнай адасобленасці і выключнасці, недаверу да іншых нацый і міжнацыянальнай варожасці. Але ж ёсць і іншыя варыянты. Напрыклад, у 1939 годзе брытанскія вучоныя сфармулявалі паняцце нацыяналізму як заклапочанасць інтарэсамі сваёй нацыі, развіццём нацыянальнай культуры, навукі, эканомікі. Такім чынам, пад адным тэрмінам можа разумецца зусім розны змест, а адпаведна рознай будзе і рэакцыя на яго.

Аднак у любым выпадку беларуская перыёдыка павінна быць вартай сваёй слаўнай папярэдніцы, каб праз які час не давялося нанова даказваць, што нельга адмаўляць у праве на жыццё любой нацыі па прычыне нібыта недастатковага высокага ўзроўню развіцця яе культуры. Час нарэшце зразумець кожнаму беларусу, што, пазбавіўшыся мовы, страціўшы сувязь з культурай народа, чалавек пазбаўляецца і чысціні светаўспрымання, страчвае духоўную повязь з пакаленнямі прашчураў, якая адна і робіць чалавека Чалавекам.



Павел НАВОЙЧЫК.

## НАША АНКЕТА

*1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?*
*2. Што замінае табе быць самім сабой? Тваё адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.*
*3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?*



### Паўлюк БЫКОЎСКІ:

1. Я жыву сёння пошукам. Як кажуць, бура занесла туды, дзе нашы вароны не лётаюць. Прыходзіцца шукаць свой шлях... Шмат страчаных ілюзій замінаюць верыць у правільнасць абранай сцежкі. Часамі ўзгадваю прыгажосць хаты, якую будаваў на лёдзе, але цяпер паспрабую ў падмурак укласці штосьці больш надзейнае. Вельмі бракуе жыццёвага вопыту.

Спрабую працаваць на мяжы фантастыкі. Праўда, не лічу яе нейкім не сур'ёзным жанрам. Наўрад ці каго, акрамя самых юных аматараў, усхвалююць нейкія новыя прынцыпы гіперсветлавога руху – як з вачэй, то і з думкі. Кожнаму зразумела, што НТР не вырашыць праблем чалавецтва, наадварот, больш іх зблытае. Такім чынам вяртаецца цікавасць да Чалавека, як галоўнай каштоўнасці, яго пачуццяў, пошукаў сэнсу жыцця, да вечнага спаборніцтва Дабра і Зла.

2. Мне нішто не замінае быць самім сабой. Праўда, гэтае я не заўсёды праяўляю, навошта? Не люблю пераўтварацца ў нуль у натоўпе, які скандзіруе лозунгі, нават тыя, што ідуць і з майго сэрца.

Мы жывём у век усеагульнай адукацыі, але і духоўнай дэградацыі. Кожны пачынае выдумляць сваю філасофію. Калі раней нас аб'ядноўвала барацьба ці за, ці супраць камуністычнай ідэалогіі, то зараз гэтай агульнай рысы і Саўка не знойдзе. І, як звычайна бывае ў паваротныя моманты гісторыі, пісьменнік звяртаецца да самаасэнсавання кожнага канкрэтнага чалавека... ці самога сябе.

3. Мара – Знайсці Свой Шлях І Прыйсці Дадому.

Працую марудна і не заўсёды прыходжу да чаканага выніку, таму пра гэтае не буду. Удзячны "Крыніцам" за непаўторную атмасферу творчасці і роднай мовы. Наша суполка ўжо даўно перарасла межы проста літаб'яднання, тым больш мы ўсе такія розныя... Жыццё віруе... Як сказаў калісьці Оскар Уальд, што самы значны твор пішацца не на палатне ці паперы, ён ствараецца з жэстаў і пачуццяў, з учынкаў і абразкоў размоў, бо ён – само пражытае жыццё. Такім чынам "Крыніцы" – гэта таксама твор. Толькі не трэба яго несці ў музей.



### Вольга АКУЛІЧ:

1. Сёння жыву як заўсёды. Нармальным чалавечым жыццём. У адрозненне ад шмат каго – лепей, чым пяць гадоў таму, бо тады мне было чатырнаццаць, а зараз – дзевятнаццаць.

Самасцвярджацца хацелася адразу пасля заканчэння школкі. Зараз чым далей, тым больш пераконваюся: трэба проста пісаць як пішацца, а астатняе прыйдзе само. А калі не прыйдзе – тым лепш.

2. Не ведаю, што мне замінае быць самой сабою, бо ў дадзены момант не магу дакладна вызначыць паняцце "быць сабой". Урэшце, усё, што я раблю, не выклікана прымусам, значыць, быць сабой мне не замінае нішто.

А наконт прыналежнасці да партыяў і да таго падобнага, дык, на мой погляд, любая ідэалогія ёсць сурагат свабоды мыслення, гэтакае добраахвотнае падпарадкаванне нейкім дадатковым абмежаванням. Так што, духоўным пастарам наўрад ці ўдасца набыць у маёй асобе яшчэ адну авечку ў сваім статку.

3. Запаветных мар няма. Ёсць шмат дробных і штодзённых, часам такіх прыземленых, што іх лагічней будзе назваць жаданнямі. Заўсёды хацелася мець нейкі оптымум грошай: не настолькі шмат, каб задумацца, куды іх лепей "прыладкаваць", але і не так мала, каб эканоміць на дробязях. Не скажу, што хочацца мець дапамогу аднекуль ці ад кагосьці, хутчэй – не мець перашкод. А жаданні цалкам зямныя і не самыя "паэтычныя". Хачу купіць добрую гітару. Зараз ужо ёсць напісаны песенны альбом, хочацца запісаць яго на апаратуры крыху лепшай, чым магнітафон другога класа з бытавым мікрафонам. А яшчэ хачу з'ездзіць за мяжу, і не для камерцыі, а проста так. Карацей, ды ці мала чаго хачу, няма магчымасцей – маўчу.

Асноўнае, над чым зараз працую, гэта спроба кнігі паэзіі... Пра цяжкасці гаварыць не хочацца.

"Крыніцы" – адно з тых нешматлікіх месцаў, дзе пра літаратуру размаўляюць часцей, чым пра каўбасу, палітыку і цэны, разам узятыя. Тут не балюча расці і не страшна памыляцца. "Крыніцы" далі мне шмат новых знаёмых і некалькі добрых сяброў. А таксама – добрую магчымасць назіраць свой і чужы рост.

Дай Бог нам і вам, і ўсім шчасця і спакою. І не будзем пра цяжкасці.



### Сяргей ЧЫГРЫН

* * *

Рака ўспамінаў
працякае праз вёску майго дзяцінства,
праз дарогі, па якіх ішоў у
самастойнасць,
праз гады, дзе вучыўся і жыў...
Нясе яна на сваіх хвалях-далонях
калыханку маці,
пісьмы сяброў,
прызнанне каханай...
Немагчыма павярнуць назад
раку ўспамінаў.

* * *

Зацвілі і сёлета ружы
на полі былога бою...
Успамін пра мужа —
каса пад страхою.

ПОСТАЦІ ЛІТАРАТУРЫ



Празаік Іван НАВУМЕНКА.



### Надзея ЧАРОПКА

*Кароткія апавяданні*

#### ДВОЕ

Нядзеля. У саборы невялікага старажытнага горада мнагалюдна. Далёка за царкоўнымі скляпеннямі чуваць мужчынскі прыгожы голас. Падчас яму дапамагае хор. Урачыстую літургію заканчвае вялікасны ўдар звана. Людзі забываюць, дзеля чаго прыйшлі сёння. Яны слухаюць маладога пеўчага ў чорным і становяцца шчаслівымі. Гэта голас Артура. Пасля службы з усмешкаю ён павольна ідзе да выхаду. Прыхаджане дзякуюць яму, а свяшчэннік з сур'ёзным тварам глядзіць услед. Яго вучань, малады Францішак, нешта хутка гаворыць яму, і, насуплены, ён ідзе да алтара.

Май. Рознакаляровыя дамы на вузкіх гатычных вуліцах весела блішчаць пад веснавымі праменямі сонца. Па дарозе да хаты Артур ціха пяе. Яго чакае жонка Марыя. Раніцай ён часта расчэсвае ёй валасы і гатуе снеданне. Вечарам часам яна мые яму ногі.

Яе лічылі адной з прыгожых. Але Артур не ведаў, што такое рэўнасць. Людзі лічылі, што маладыя жылі шчасліва, аднак ім ніхто не зайздросціў. Гаварылі, што Марыя — вар'ятка, і быццам бачылі, як яна ходзіць па дахах ноччу. Артур смяяўся: "Хто мог гэта бачыць? Ноччу яна спіць". Яна магла доўга стаяць ля моста, гледзячы на мутную ваду, размаўляць з жабракамі, смешна гаўкаць на суседскага сабаку.

Аднойчы пасля службы Артур не застаў яе ў хаце. Ён выйшаў на вуліцу і ўбачыў Францішка, які бег яму насустрач:

— Марыя мёртвая...

Яна ляжала ў доўгай сарочцы ля сцяны старой вежы пры ўездзе ў горад... Навошта яна зрабіла гэта? Каб быць бліжэй да нябёсаў ці мацней адчуваць прыцяжэнне зямлі?

Артур тыдзень не выходзіў з хаты. Калі на парозе ён убачыў свяшчэнніка, не паварочваючыся, сказаў:

— Не магу больш пець.

На другі дзень свяшчэннік звярнуўся да прыхаджан:

— У Артуру памёр спявак, але нарадзіўся чалавек. Цяпер ён радзей будзе прыходзіць сюды...

Францішак, пакорна паклаўшы рукі ціха спытаў:

— Чалавек? Што ж ... Ён ім не быў?

Свяшчэннік не адказаў.

#### АПОШНІ ЛІСТ

Марыя прачытала апошнія радкі з ліста Наталлі: "Нашы вуліцы зусім забылі пра мяне, а нашы дамы зачыняюцца, калі я падыходжу да іх, а людзі... тыя проста не хочуць мяне бачыць". І больш ніводнага слова. Кожнае пісьмо Наталлі несла ў сабе нейкую трывожную загадкавасць, вядомую толькі ёй тайну. І ўсё ж Марыі было ясна, што яе сяброўцы вельмі цяжка і адзінока ў далёкім горадзе.

— Мне трэба наведаць яе, Андрэй,— сказала яна мужу.

Той кіўнуў:

— Едзь.

У цягніку было холадна і па-дарожнаму няўтульна. Марыя разумела, што нічога, абсалютна нічога не вырашыць яе паездка. Магчыма, наадварот, паставіць новыя пытанні: "Ах, чаму я раней не прыехала?.." Усё пісала, што не маю магчымасці, часу... А цяпер, калі яна і не просіць, сабралася вось".

Была восень. Цямнела ўжо рана. Марыі заўсёды здавалася, што восенню і асабліва зімой, людзей на вуліцах менш, і толькі з веснавым сонцам выходзяць яны са сваіх кватэр, каб усміхнуцца адзін аднаму. Яна ішла пяшком уздоўж шырокай вуліцы, задумалася, і раптам убачыла шэрыя магільныя крыжы. Але гэта не ўсхвалявала яе. Тут яна была калісьці, гадоў пяць назад, калі могілкі былі па-летняму прыгожыя. Наталля паказвала ёй старажытныя магілы і ўсё паўтарала:

— Марыйка! Як ціха, як лёгка тут дыхаецца, адчуваеш?

Марыя пагаджалася. Яна была закаханая ў Андрэя, будучага мужа. А Наталля толькі ўспамінала сваіх бясконцых знаёмых:

— Ай, Марыечка! Усё яшчэ ў мяне будзе. Нельга толькі страчваць надзеі.

Яны сядзелі на маленькай лаўцы ля незнаёмай магілы, і, калі ўбачылі раптам бабульку, хацелі пайсці, але тая сказала:

— Сядзіце, дзяўчынкі, нічога.

Зараз тут было бязлюдна. Дрэвы зусім голыя...

Марыі хацелася знайсці цяпер тую самую магілу, і яна хутка ішла ўздоўж нахіленых ад часу крыжоў. "Божа. Не ад яе, ад сябе бягу!" І раптам убачыла вялікага чорнага крумкача. Ён важна сеў на вялікі крыж і закаркаў. Падышоў хлопчык гадоў дзесяці, самотна сказаў:

— Хтосьці зноў памёр у нашым горадзе.

Марыя ціха спытала:

— А што... у вашым горадзе часта паміраюць?

Хлопчык паглядзеў на яе здзіўленымі вачыма і пабег.

Марыя доўга хадзіла, заблукаўшы сярод магіл, а калі выйшла на вуліцу, быў ужо вечар. Яна села на адзінокую лаўку і заплакала: знайсці Наталлін дом у такой цямрэчы было немагчыма.

#### ALLEGRO

Калі актрыса выйшла з тэатра, яна ўздрыгнула: у кішэні яе чорнага паліто зноў ляжала маленькая запіска. Жанчына разгарнула і прачытала: "Чакаю Вас у сераду, а 20 гадзіне". І было названа месца сустрэчы.

Зноў без подпісу, зноў там, ля прыгожага дома на ціхай вуліцы.

Актрыса хадзіла ў гэты тэатр толькі на адну і тую ж пастаноўку. І, канешне, не дзеля таго, каб пабачыць акцёраў. У самым канцы спектакля гучала цудоўнае allegro на скрыпцы. Здавалася, што скрыпка разам са смычком у залатых руках музыканта гаварылі з ёй аб мінулым, сучасным і аб будучым. І кожны раз актрыса выходзіла з тэатра з маленькім лістом паперы...

Яна прыходзіла на вячэрняе спатканне і ніколі нікога не сустракала. Магчыма, гэта былі злыя, бязлітасныя жарты.

У сераду, роўна а 20 гадзіне, ля прыгожага дома на ціхай вуліцы стаяла высокая жанчына. Яна думала, што ў чалавека, які так жорстка абыходзіцца з ёй, нядрэнны густ, калі ён прызначае ёй сустрэчу ў гэтым рамантычным месцы.

З'явіліся двое прыгожых мужчын. Здзіўлена аглядаючы жанчыну, прайшлі міма. Глядзелі раўнадушна і незацікаўлена. Раптам яна пачула крокі за спінай і хутка павярнулася. Але то быў усяго толькі жоўты кляновы ліст, які ўпаў на зямлю...

Актрыса, агінаючы голыя кусты, ішла дахаты, не зважаючы, як следам за ёй назіркам, брыў маленькі няўклюда-скрыпач з аркестра.

#### СОН

На бальнічнай лаўцы сядзяць трое: Юрый Іванавіч — хударлявы, смуглы мужчына з жывымі карымі вачыма, яго жонка і дваццацігадовая дачка. Юрыю Іванавічу за пяцьдзесят, у бальніцы ён ляжыць ужо трэці тыдзень, аднак здароўе не паляпшаецца. Ён скардзіцца на недахоп лякарстваў, грубасць урачоў, дрэнную ежу. Дачка сядзіць побач з маці на краі лаўкі. Яна ў цёмных штанах, чорных мужчынскіх чаравіках. На шыі прыгожа павязана шэрая хустка. Нарэшце да яе звяртаецца бацька:

— Ну, як ты, Вольга?

— Нічога сабе.

— На заняткі ходзіш?

— Хаджу... Часам.

Бацька павысіў голас:

— Што значыць часам? Трэба заўсёды хадзіць!

— Можна і незаўсёды.

Вольга моўчкі глядзіць на сцяну.

— Ну, вядома, ты ж разумнейшая за ўсіх! Мастачка вашывая!

Дзяўчына ўстала і пайшла па бальнічным калідоры.

Юрый Іванавіч злаваўся.

Вечар. За бруднымі вокнамі цягніка ледзь-ледзь распазнаюцца прыдарожныя слупы. У тамбуры стаіць хударлявы мужчына. Побач — высокая дзяўчына. У яе доўгія чорныя валасы. На шыі шэрая хустка. Мужчына глядзіць уніз, і раптам яго ахапляе жах: пад калёсамі мёртвае жаночае цела...

Юрый Іванавіч прачнуўся. У кішэні штаноў знайшоў двухкапеечную манету. Пайшоў па цёмным бальнічным калідоры да тэлефона. Калі набраў хатні нумар, пачуў ціхі голас дачкі.

— Вольга, гэта я. З табой усё нармальна?

— Так.

— Ну, добра. Мне тут прыснілася абы-што.

Юрый Іванавіч павесіў трубку і закурыў.



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

## НЕВЯДОМАЯ ПАЭТКА

Я ніколі не бачыла Вас,
Можа быць, толькі позіркам сэрца.
І над Вамі сівее трава,
І ніхто Вас не помніць на свеце.
Вы былі гэткай самай, як я,
Шмат чыталі і вершы пісалі.
І самота была ў Вас мая,
І зялёныя вочы палалі.
Не хацелі Вы жыць, як усе,
А інакш не выходзіла, пэўна.
І суседзі смяяліся ўслед:
"Бач, якая ідзе каралеўна!".
Правінцыйны глухі гарадок.
Што маглі Вы, шляхцянка-паэтка?
Вам прыпісвалі звад і сурок,
І мужчыны паглядвалі рэдка.
Хто знайшоў Вашы вершы, і як —
Пажаўцелыя стосы паперы?
Ваш нашчадак, далёкі сваяк,
Ці чужынец у шэрым шынэлі?
Ці чытаў перад тым, як спаліць?
...Вочы Вашы глядзяць праз бязмежжа,
Як душа мая ў часе гарыць,
І ўскрасае спалёныя вершы.

## ВЫЙСЦЕ З ПУСТКІ

З пусткі Ён выходзіў, нібы з саду,
І свяціўся ціха твар Яго.
Хоць хапала ў свеце вінаграду
Для людзей і для людскіх багоў,
Ён ішоў, забыўшыся пра голад,
Пра пясок і смагу, і жуду,
І пра свой ад слёз ахрыплы голас,
Што пытаўся: "Хто я? З чым іду?".
Першыя травінкі заблукалі,
Між каменняў збліснула вада.
Трэснулі Майсеевы скрыжалі,
Быццам неба страшнага суда.
Ён ідзе, і пустка за спіною —
Кокан пад крылом у матыля.
Будзем жыць, любіць жыццё, панове,
І ўзірацца ў неба спакваля.
Кіпарысы падпіраюць неба,
З храмавай суровасцю калон.
Ёсць часы, калі не просіш хлеба
Не таму, што не патрэбны ён.
...Вучні, як спалоханыя дзеці,
Сыплюць словы, не канчаюць фраз...
А Настаўнік, самы лепшы ў свеце,
Сам і ёсць нячутны ім адказ.

* * *

Навальніцу першую страчаць
Без капелюша, панове, трэба.
Вось маланка, як лязо мяча,
Разразае шчыт блакітны неба,
І, магчыма, лепш не разумець
Чалавеку ў несмяротнай волі,
Што ў вігнавым целе дрэмле смерць
І ў свой час штурхне яго пад кола.
Можа быць, прыроды шумны пір
Для таго й задуманы, каб сведчыць
Пра вялікасць вечнага — і вір
Мітусні штодзённай чалавечай.
Я нап'юся ліўня — можа быць,
Не кіслотны ён і не атрутны.
Б'е пярун — і я жадаю жыць!
Устае за коламі трыпутнік.
Высахлай расе з'явіцца зноў,
Страчанай надзеі — аднавіцца.
Я з адкрытай галавою зноў,
Як даўней, страчаю навальніцу.

## РАДАВОЕ ГНЯЗДО

Пальцы гладзяць патрэсканы лак на партрэце.
Здасца, што фарбы праменяць чамусьці цяпло.
І праз разбіты вітраж завітае пан вецер...
Вось яно, продкаў, амаль што забытых, жытло.

Колькі змянілася тут пакаленняў і лёсаў!
Колькі вяселляў, і колькі самотных старых!
Гэтыя сцены, што сёння прапахлі навозам,
Бачылі смерць і каханне, і вояў чужых.

Бедны нашчадак у джынсавых портках, якія
Прадзед аддаў бы прыслузе на стайню насіць,
Памяць твая анічога табе не адкрые
Як тут жылі! Так ніколі табе не пажыць.

Што за размовы ўчынялі за кубкам гарбаты
Інтэлігенты мясцовыя ўзросту твайго.
Свет перайначыць хацелася! "Хто вінаваты"
Ды "Што рабіць?" — паўтаралася з году ды ў год.

Тут атэізм прапаведвалі кветкі-курсісткі,
Потым — вянчаліся, дзетак хрысцілі сваіх.
Тут пачыналіся спрэчкі аб мове мужыцкай,
І беларусам назваў сябе нехта з сям'і.

Як яны марылі шчасце нашчадкаў наблізіць!
Волю ўспявалі, шукалі дарогі прамой...
Дом іх зрабіўся маёмасцю сацыялізму;
І пад нагамі нашчадка —тынкоўка і гной.

...Цені паненак вальсуючых, рэшткі паркета,
Мат рускамоўны на сценах, парваны плакат...
Цьмяны пагляд ацалелага цудам партрэта...
Час не павернецца... Дый і не трэба — назад.

Выйдзі адсюль, з апаганенай цёмнай грабніцы.
Хто вінаваты — не думаць пра гэта лягчэй...
Ветах запаліцца яснаю свечкай грамніцаў.
З вёскі чужой ты паедзеш як можна хутчэй.

* * *

Я на зямлі — толькі трэска,
якая гарыць,
Ад высокага вогнішча
ветрам шпурнутая ў цемру.
І жыццё для мяне —
толькі злыя, пачварныя цені,
Ды кавалачак глебы,
які я змагла асвяціць.



Алесь ДЗІТРЫХ

* * *

Ты адляцеў, як птушка ў цёплы край,
махнуўшы мне крылом. Шчымлівае "бывай"
вятры перадалі і расказалі зоры,
прабіўшы мне душу. На белапенным моры
ўзняўся грозны вал. І дзікае цунамі
кахання й небыцця, мой дружа, паміж намі.

* * *

Не трэба. Не шукай, не знойдзеш гэткіх лек,
каб даць жыццё. І на краю магілы
яно апошні раз адмервае мне сілы
расцалаваць цябе і адысці навек.

Няхай далёкі звон настойліва заве.
Схіліся нада мной лілеяй белай-белай,
каб я адчуў душой, вачыма, усім целам,
што і ў памёрлым прыгажосць жыве.

Народзіць новы свет спрахнелая труна,
з аджыўшага жывое закрасуе.
І я вярнуся зноў, як травень забушуе,
зламанай кветкай да твайго акна.

## ЗІМА

I

Я пачуў з тваіх вуснаў,
што зараз зіма.
Што на сэрцы лёд хруснуў
ад сугрэву віна.
Стала гнуткаю косць.
Можа, мне падалося?
Ноч. І ты на парозе.
Плач жа, плач. Не збылося,
не ў гэтым вагоне
ўцячэ ад цябе маладосць...

II

Першы снег.
Ён не ведаў, што мы расстаемся.
Як дзіця,
ціха песціў нам твары.
Звонкі смех
дзесьці рэхам асеўся
на краях
белай снежаньскай хмары.
А мароз
пёк бязлітасна рукі
і збялеў
знерухомелы сад.
Я прынёс
табе шчырыя гукі –
горкі спеў развітальных санат.

## СЛЁЗЫ

I

Вачэй журлівае святло
люструе возера нябёсам.
І цягне, цягне к сабе дно
ад крыл напужаных анёлаў.
Лягчэй ад пёрайка душа,
а мукай боскаю канае.
Як прагне злюбленых бяда!..
Так прагне шчасця маладая.
Святло патушыць цень начны,
бяда анёлаў здушыць глыбай.
І слёзы выльюцца ў дажджы.
Жалобай споўняцца вялікай.

II

*С.П.*

Душа спытала пра душу
тваю таемную да Бога.
Я гэты ліст цяпер пішу
у прадчуванні незямнога.
Слязою лашчыць залатой
руку мне воск. І плачуць вочы
ад гэтай шчырасці... Ці той,
што сэрца выказаць не хоча?



Таццяна ЛАПЦЁНАК

* * *

Чароўная белая стома
ахутала плечы зямлі.
На захадзе кропляй чырвонай
няшчырае сонца баліць.
Далёкая постаць хвалюе:
замерла ўсё наваколле.
Напэўна, нехта блазнуе
ці спакушае долю.
На скронях з'інелых сосnaў
паружавелая снежаць.
Шлях узараны зорны
закалыхвае белую Вежу...

* * *

Апошні раз пакутаю і стогнам
скараюся на Твой маўклівы Суд.
Пакінутыя за плячыма вокны —
пякучым болем невыносных пут.
Атрутаю — звычайныя пяшчоты.
Маёй неспадзяванкаю-уцехай —
твае недасягальныя турботы.
...Нашай любові цікуючае рэха.

* * *

Узор па кветках хмаркай сіняй...
Тугі ліхтар.
Ты зноў мяне адну пакінеш
у ноч, званар?
Звычайна будуць падаць росы
на мяккі дол.
Званочкаў спеў звонкагалосы,
мігценне зор...
Барвінак сцеле дух смаляны
і сніць вясну.
У сне шчырые водар п'яны.
Пакінь адну.

* * *

Недалёкая сцяжына
паміж соснаў.
Родны мой і мой адзіны,
мой дарослы.
Ад цябе спяшаюцца
ўсе шляхі.
Загукалі ў марацы
пастухі.
Зноў вясна на выгане
сцеліць долу,
цепліцца адлігамі
без дазволу.
Хтось цябе спаткае,
пагукае шчыра.
Мне — другая зграя.
І другі мне вырай.



Сяржук МІНСКЕВІЧ

# Натхнёны ёю на лекцыі

Аднойчы мая суразмоўніца, калі гаворка зайшла пра маладую сучасную беларускую паэзію, выказала такі папрок, што ў нас вершы ў асноўным сумныя — толькі павучальныя, палітычныя, роспачныя: аб стане мовы, культуры, экалогіі; аб вымушаным адлучэнні асобы паэта ад грамадства, і амаль няма вершаў аб вечным і простым, якія можна было б пачуць палкім шэптам на лаўцы пад бэзавымі гронкамі...

І я не змог ёй запярэчыць і адказаць пераканальным прыкладам. Але, прыйшоўшы дадому, я перагартаў сшыткі сваіх вершаў і выбраў з іх тыя, якія пісаліся, калі свядомасць мая была палонена, ап'янёна каханнем... Не плынь свядомасці, а плынь кахання.

*А.А.*

Дзе зоры ззяюць вачыма дзявочага смеху,
Лунае з промняў і ветру сатканая парта,
Сусвет абдымае звонкае чыстае рэха,
Якое святлом нараджаецца з лёгкага жарту.
Дачка Зямлі з валасамі каметнага шлейфу
Разводзіць бровы над кніжкай Томаса Мана,
А я стамлёна чакаю на бале – у эльфаў!–
Калі адгарнем мы з ёю старонку рамана.

* * *

*У.А.*

Ноч, як чароўная кветка,
Распусцілася ў сонечных промнях...
Толькі ў сне.
Нібы ў сне
пазаразважным
Надыходзіць світанкам раскоша.
І водар ружовы –
па жылах.
І струмень вадаспадны –
па спінах.
І вясёлка, як шалік,
абодвум...

* * *

Я застаўся адзін.
Мае рукі змерзлі пустэчай.
Лёд і снег – успамін,–
Лёд і снег.
Успамін
Загасае і плача, як свечка.
Перакуць сабе грудзі,
Захлынуцца ў далонях лязом.
Сон растаў. І не будзе!
Сон растаў – і не будзе,
З руж пялёсткі зляцелі рыззём.
Час – павук на сцяне,
Цемра шыбу шэрую ліжа.
Твар знікае ў акне,
І маўчыць тэлефон белым крыжам.

* * *

*Т.Б.*

На свечцы,
Што гарэла яркім полымем,
Па-над самым канчыкам кнота
Я пакінуў адбітак сэрца.
Асалодна-балючы дотык...
Апошняя кропля святла
У бяздоннай ночы,
Згаснуўшы, запаліла мяне.
Кроў шалёна ўскіпела над скронямі.
Я чакаў.
Я адчуваў, што там,
У бязмежжы
Зусім непрагляднага змроку,
Паўстане Ваш твар,
Ваша постаць...
Вашы мяккія гнуткія рукі
Пяшчотна абдымуць мяне.



Таня СТАРАСЦЕНКА

# СПАСЦІГАЦЬ НЕСПАСЦІГНУТАЕ

## (Роздум над паэзіяй А.Разанава)

Мы задужа прызвычаіліся да традыцыйнай паэзіі, яе нязменных ямбаў ды харэяў. Але ж літаратура і паэзія ў прыватнасці не стаяць на месцы. Сапраўдныя творцы — у штодзённым пошуку. Максім Багдановіч і... Алесь Разанаў. Чаму я стаўлю побач гэтых паэтаў? Бо першаадкрывальнікам незлічоных скарбаў беларускага слова быў М.Багдановіч, які наблізіў беларускую паэзію да сусветнага ўзроўню. І сёння яго справу працягвае А.Разанаў. Дарэчы, такая новая форма верша, як квантэма, нарадзілася менавіта на Беларусі і дзякуючы А.Разанаву. Чытаць, асэнсоўваць квантэмы цяжка, бо ў іх няма відавочнай звязанасці паміж сказамі. Такой квантэме Разанава

*руіны запарушваюцца*
*рунь*
*уваскрашэнне руны*
*неба блізка*

А.Глобус прапанаваў вярнуць знакі прыпынку, вялікія літары, каб надаць вершу "большую завершанасць", лагічнасць. Толькі ці варта гэта рабіць? Крытык Я.Гарадніцкі лічыць так: "Чаму ўвогуле твор трэба разумець, а не ўспрымаць яго эмацыянальна, інтанацыйна ці яшчэ як па-іншаму?". Думка гэтая мне бліжэй. Па словах Разанава, "паэзія страчваецца, калі ствараецца па розуму — з вядомай матэрыі, а павінна бы з невядомай: па шчырасці, па нявыказанасці, па немажлівасці". З мэтай зрабіць верш эмацыянальным, напружаным паэт адмаўляецца ад правільнай будовы радка ў моўным плане, дае чытачу шэраг нечаканых асацыятыўных знітаванняў паміж паняццямі. Л.Гінзбург, аналізуючы паэзію В.Мандэльштама, вылучыла два ўзроўні чытацкага ўспрымання верша. На першым — працоўным — дамінуюць імпульсы, штуршкі эмоцый, на другім — зразумелыя чытачу значэнні. А.Разанаў абапіраецца ў творчасці менавіта на ўзровень імпульсаў. Кванты эмоцый квантэмаў падчас не зразумелыя з першага чытання. Не выключана, што ўдумлівы чытач суб'ектыўна падыдзе да разумення сэнсу твора, па-свойму трансфармуе аўтарскія пачуцці. І гэта таксама творчасць. Прыгадайма асноўную ідэю лекцыі Антона Луцкевіча "Праблемы красы й мастацтва ў творах М.Багдановіча", што эстэтычная асалода ад твора здольна перайсці на сваю вышэйшую ступень — тварэнне. Па Мандэльштаму, сэнс любога слова "выпраменьваецца з яго ў розныя бакі, а не імкнецца ў адну афіцыйную кропку". Мандэльштам меў на ўвазе сугестыўнасць слова, не кажучы ўжо пра радкі аднаго верша, паміж якімі адсутнічае сэнсавая залежнасць. У такім выпадку цесная сатворчасць з чытачом забяспечваецца. Нават і пры няпоўнай аперцэпцыі — залежнасці ўспрымання твора ад індывідуальнага вопыту і запасу ведаў — інтуіцыя падкажа чытачу іншыя асацыяцыі. Па-рознаму, напрыклад, можна зразумець сэнс квантэмы А.Разанава:

*шукаю перашкоду*
*год штодня*
*варушацца*
*патрушчаныя*
*цацкі*

Па-першае, могуць узнікнуць асацыяцыі з замкнёным колам жыцця, з якога чалавек шукае выйсце і часам замест гэтага ўпіраецца ў сцяну безвыходнасці.

Па-другое, спалучэнне "патрушчаныя цацкі" ў кагосьці выклічуць асацыяцыі з дзіцем. А значыць, дарослы чалавек — тое ж дзіця, якому карціць зазірнуць у глыб цацак. А цацкі — спіжарні жыцця. Спазнаеш іх глыбінную існасць — і далей шукаеш сабе перашкоду.

Як бачна, да тлумачэння аднаго твора можна падысці па-рознаму. Паэт не навязвае нам уласных пазіцый і высноў, у чым мне таксама бачыцца наватарства А.Разанава. "Новае звязана з цяжкасцю ўспрымання. Наватарства заўсёды суправаджаецца рашучасцю разруйнаваць звыклыя традыцыі і ўмоўнасці", — лічыць Н.Стрыжэўская, аналізуючы паэзію Францыі. Яе думку працягвае складальнік анталогіі расейскага верлібру Карэн Джангіраў: "Верлібр — вынік разняволенага мыслення, які, відавочна, мае патрэбу і ў асобай форме запісу":

*іржавы вір*
*што*
*ловяць*
*нараджэнні*
*ўмуравана вежа ў засцярогу*

**("Квантэма")**

А.Разанаў — не адзіны паэт на Беларусі, які працуе ў нетрадыцыйным напрамку. Гэткая ж разняволенасць мыслення прысутнічае ў Хв.Кашкурэвіча, Ю.Пацюпы, Ю.Гуменюка, Л.Раманавай, Ул.Пучынскага-Пірага... У квантэмах А.Разанава, як і ў творах пералічаных паэтаў, прысутнічае лаканічная энергія фразаў, якая дасягаецца скупасцю слоў. Б.Эйхенбаум пісаў: "Імкненне да лаканічнай энергіі выражаецца таксама ў рэзкіх сінтаксічных пераходах. Сувязі паміж фразамі адсутнічаюць — ствараюцца рэзкія штуршкі, якія надаюць паэтычнай мове... сутаргавую напружанасць. Гэтая сціснасць мовы робіць сінтаксічны рух фраз незвычайна адчувальным".

Такая лаканічная энергія характэрна і для галоўнага метаду даследавання чалавечай псіхікі ў сучаснай літаратуры — плыні свядомасці. Яго ўдала выкарыстоўваюць Д.Джойс у рамане "Уліс", М.Пруст у эпапеі "У пошуках згубленага часу", У.Фолкнер у рамане "Шум і лютасць", якія лічыцца творам плыні свядомасці. Ды і ў беларускай літаратуры можна знайсці нямала прыкладаў плыні свядомасці, але нашы пісьменнікі ў большасці выпадкаў давалі літаратурную апрацоўку гэтай плыні, як, дарэчы, і М.Пруст. Звернемся да ўнутранага маналога галоўнага героя аповесці М.Гарэцкага "У чым яго крыўда?" Лявона Задумы:

"Не, не расстаўся я з табою, мой родны край, — думаў Лявон, — не расстаўся, але ў вялікай нязгодзе ўжо мы з табою... Ты не разумееш мяне, а я не магу згадзіцца з табою і з тваімі парадкамі".

"З якімі парадкамі? — вытыркнулася з'ядлівае джала мудрага змея з самага свайго закутачку душы, — што ў мужыцкай лазні табе ўжо невыгодна мыцца, дык усё Цёмналессе павінна перакуліцца перад табою?.. Падумаеш, які важны, вучоны, цывілізованы зрабіўся! А чаму Цёмналессе такое, ты ўжо менш думаеш!.. Ты ўжо забываешся, забываешся!..".

На маю думку, А.Разанаў рэалізуе метад плыні свядомасці ў квантэмах. Вызначым этымалогію гэтага слова. Паходзіць ад лацінскага guantum — колькі. Квант — "найменшая колькасць якой-небудзь энергіі". А.Разанаў фіксуе часовыя ўсплёскі пачуццяў, а эмоцыя, як вядома, не патрабуе логікі і дасканалай формы.

Безумоўна, куды прасцей было б ісці ў паэзію традыцыйным, спрошчаным шляхам і не нагрувашчваць чытача працай над сэнсам твора. Вось як піша пра гэта ў вершы "Паэзія" Таццяна Сапач:

*...Вядуць усе гасцінцы і сцяжыны*
*туды, дзе цераз рэчку гразкі брод —*
*там па калена.*
*Там раней прайшлі.*
*А я ўмею плаваць адмыслова.*

"Плаваць адмыслова" ў дачыненні да А.Разанава — значыць, быць наватарам не толькі зместу, але і формы. Таму не здзіўляйцеся такому нязвыкламу для нас моўнаму афармленню квантэмаў. Лепш будзем уважлівымі, няхай і суб'ектыўнымі, сатворцамі сапраўднай паэзіі.

## *Наш гумар*

Вольга Акуліч:

* * *

– Лепш адчуваць сябе нармальным – цэлым! –- чалавекам, чым паўкласікам.

* * *

– Каб мне такі голас, як у Пазнякевіча...

Сяргей Вераціла:

* * *

– Лепей шмат сала, чым шмат партый.

* * *

– Расчараванне і пакрыўджанасць – адно і тое ж...

Ніна Загарэўская:

* * *

– Палохае маўчанне, за якім суцішылася вечнасць.

* * *

– Чалавек чалавеку – чалавек.

Мікола Касцюкевіч:

* * *

– Як цяжка быць самім сабой, калі нічога з сябе не ўяўляеш.

Уладзімір Клімовіч:

* * *

– У яго на твары панавала ўсмешка галоднага кракадзіла.

– Крый Бог, калісьці расколецца Сусвет і на апаленую Зямлю абваліцца Неба, першымі пачнуць лямантаваць каты. Яны абудзяць паэтаў.

* * *

– Чым болей мы п'ём, тым лепей спім.

* * *

*(Пра Алега Я-ча):*

– Ён сам расце хутчэй, чым яго вершы.

Наталля Кучмель:

* * *

– У каго няма натхнення ў Баранавічах, той яго і з Парыжу не прывязе.

* * *

– Лепей разумнае каханне, чымся дурная палітыка.

* * *

– Людзі не даруюць паэту, што ён можа болей за іх,– калі ён пры гэтым не можа тое самае, што і яны.

* * *

– Пнучыся ў царства Божае – ці дапнеш; а спакойненька ішоўшы, можа, і дойдзеш.

Лідзія Лукіянава:

* * *

– Паэзія, як і варажба, на дурняў не дзейнічае.

Віка Малышава:

* * *

– Я – празаік, але пішу са страхам, бо не ведаю, пра што пісаць.

Сяржук Мінскевіч:

* * *

– Гумарэску трэба пісаць сур'ёзна, без смеху з сябе.

Аляксей Ненадавец:

* * *

– Для ўзлёту на сёмае неба
мне толькі ўсяго і трэба:
паэтаў пабольш маладых
ды ў вершах іх строфаў благіх!

Валеры Пазнякевіч:

* * *

– Крытык – гэта чалавек, які крычыць і тыкае пальцам у другога чалавека.

Уладзімір Пучынскі-Пірог:

* * *

– Скажы, хто твой сябар, і я скажу сябрам якога літаб'яднання ты з'яўляешся.

* * *

– Аб'яўляю падзяку з занясеннем правай рукою ў левую пашчэнку.

Вынятка з рэцэнзіі пачаткоўца:

"Аўтару апавядання "Муха" – бадай, гэта ці не праграмны твор ужо вядомага маладому чытачу празаіка – удалося наўздзіў тонка, з псіхалагічным пранікненнем у сутнасць характараў, злучыць у непарыўнае цэлае звыродныя памкненні хітрай пракуды Цакатухі і складана-вірлівую, рупна-плённую ахвярнасць млынара Вітаўта, за што апошні – няма сумневу! – і паплаціўся ўласнай галавою".

* * *

Герой верша далёка немаладога перыферыйнага паэта-пачаткоўца так знерваваны сённяшнім жыццём, што ў яго...

Аж пальцы на назе
Згінаюцца ў кулак!

* * *

Шырокавядомы эпіграміст, атрымаўшы па носе, знепрытомнеў і... ляжаў на счырвоненым снезе да таго часу, аж пакуль не ўчапіўся зубамі ў хвост прымроенага Пегаса, і той прывалок нябогу дахаты.

## *Гасцёўня*



Мар'ян ДУКСА

### Са зборніка "Горн прымірэння"

* * *

Мой сябар,
што ты згас-патух?
А мо сям'я —
і праўда круг?
Хоць сэрца з сэрцам
у саюзе,
ды воля —
шарыкам па крузе...
І тут,
нібы на крытым трэку,
занадта цесна
чалавеку.
Ты нават
уявіць не мог,
што думкі падаюць
да ног.
Ды марыць
кожны валацуга
набыць
сталёвы панцыр круга.

### Пасланніца ад продкаў

Плыве яна,
як з азярыны плотка,
ціхманая
пасланніца ад продкаў.
І не старая,
і не маладая.
Чарот чарговы
радасна гайдае.
Вада не тая...
А ідэя — тая:
праз сотню год,
праз сотню год
ці дзвесце
ваду жывой,
празрыстаю данесці
да новых дзён,
да нейчых рук прыпасці,
прабулькаць песню
аб звычайным шчасці.

### Пейзаж

Звісае
з ружовага бэзу галлё.
Замала букета —
ламай хоць бярэмя.
Брынчыць
ланцугом адарваным цялё —
рэжым надакучыў яму пад'ярэмны...
Усё бачыць
і брэша сабака нядрэмны.
Спыніся — прыглядзься:
красуня ў акне —
з букетам увішна снуе каля вазы.
І хваля гарачая шчокі кране —
прамчаць,
чорны дым выдыхаючы, МАЗы,
і ў гэтым
ніхто не заўважыць абразы.
Ганяюць па вуліцы мяч хлапчукі,
ля плоту
юнак на гармоніку рэжа...
А над галавою
касцельная вежа
спрабуе паслухаць і ўцяміць бязмежжа.

* * *

За тайнай — наўздагон...
Скачы кулём, як Рэмба...
Каму патрэбен ён —
твой малаўцямны рэбус?
Сваё вітанне шлеш
якому адрасату?
У сэнс без дна і меж
ты робіш спрытна сальта.
Ці глянуў на бакі,
дзе наша мова вяне?
Хто знойдзе іх — радкі,
схаваныя ў тумане?
Пяройдзеш час уброд —
ёсць паэтычны мускул!
Як навучыць народ
чытаць па-беларуску?
Да мовы ён жывой
ідзе, хаця й марудзіць.
Чарговы рэбус твой
яго зусім адпудзіць.

* * *

Ёй чайкі садзяцца амаль на плячо,
і хваля штораз аж да ног дабягае.
Па белым пяску шпацыруе дзяўчо —
бярозка дый годзе, узятая з гаю.
Калі ўжо не з гаю, то, пэўна, яна
сышла на кароценькі міг з паднябесся.
Звініць яе точаны стан, як струна.
Пранятая сонейкам цела — як песня.
Вось кінецца зноў на марскую пасцель
і будзе вадзе, як маленькая, рада.
Пакуль што не хочацца... Зваблівы хмель
яе абвівае мужчынскіх паглядаў.
А ветрык на русай яе галаве
хітнецца, папесціцца зрэдку.
Не хочацца ў мора. Без мора плыве
цяпер яна ў тысячных зрэнках...

### Мудрасць

Яе выкарчоўвалі, як маглі —
дзе словам, а дзе бульдозерам.
Тапілі калі-нікалі
ў крыві яе, нібы ў возеры.
Патрохі падкладвалі тол —
што цацкацца з ёю, манашкаю!
Яе запрасіць за стол —
злачынствам лічылася цяжкім.
Яе ад шалёнага дня
ў кастрычніцкі дзень адрэзалі —
дзе правілі злосць і гайня
ўсіх дамарошчаных цэзараў.
Яна са сваёй вышыні
на тых, хто стаяў з даўбешкаю,
глядзела ўсе ночы і дні
са скрушлівай горкай усмешкаю.

### Пусты бераг

Як добра мору без людзей,
без нагрувашчанасці пляжнай.
Як аднаму застацца важна,
хоць гэта можна ўсё радзей.
Як хочацца без гаманы
чужой, што абяцае звягу,
глыбокую бязмерна смагу
на бераг выкаціць зямны.
Прынёсшы свой запал здалёк,
у меру сіл сваіх трохбальных
без каментарыяў банальных
кіпець і цалаваць пясок.
Гідліва выкінуўшы бруд,
зялёных водарасцей смецце,
любіць найбольш за ўсё на свеце
сваёй самотнай волі цуд.
Сігналы з вечнасці любіць —
не нашы галасы глухія.
У чыстым выглядзе стыхіяй
яшчэ раз хочацца пабыць.



Тамара МАЗУР

## ДЗЁННІК

* * *

Мне самотна, мне вельмі самотна без цябе. Гэта праўда. Не, не, не падумай. Я не хачу кахання. Я наогул нічога ад цябе не хачу. Ты — мой сябра. Сябра... Гэта слова набыло для мяне ніколі раней нячутую сілу. Сяброўства... Гэты саюз я ўзношу вышэй усялякіх іншых, патрапаных і паношаных. Мажліва, здарыцца, што лёс распарадзіцца так, каб мы не маглі нават пісаць адзін аднаму лісты, "у сілу пэўных абставін", аднак, памятай, я заўсёды з табой. Павер мне, мой Сябра. Я — з табой.

* * *

Раніца. Нядзельная раніца. Па радыё чуваць вясёлую музыку. Перашкаджае думаць. Выключаю. Цішыня. Толькі зрэдку даносіцца гул рухавіка. Дзіўна, чаму зрэдку? Побач жа праспект.

Ты яшчэ спіш? Мне здаецца, што так. Ну вось, я і патурбавала цябе сваімі думкамі. А можа, і не. Можа, гэта мне так толькі здаецца. А менавіта, што ты шануеш нашу дружбу, што ты паважаеш мяне, што наогул ты — той, якім я цябе ведаю. А што калі ўсё мана?

Аднак.

Мне так добра з табой. І таму, што ты нічога ад мяне не патрабуеш, і таму, што ты мяне разумееш, і таму, што размаўляць з табой можна душой, лёгка, узнёсла і натхнёна, не цураючыся падбіраць і такія ж чалавечыя словы.

Выказваць свае думкі ты ўмееш лепш, я яшчэ вучуся. Аднак ты разумееш... І мне так утульна з табой. Давай пасядзім яшчэ, пакуль перастане дождж.

* * *

Кахаю? Не кахаю? Дзіўна, што я не задаю сабе гэтыя пытанні. Каханне — гэта так мала. Мізэр у параўнанні з той сілай, што яднае нас. І людзі да гэтага часу нават не прыдумалі Назовы гэтай сіле...

Зірні, якая прыгожая пунсовая кветка на акне. Таксама не мае назвы. А можа, і мае. Не — хутчэй за ўсё мае, толькі мы не ведаем. А ўсё-ткі — яна чужая, гэтая кветка.

Цікава, якія кветкі любіш ты? А мне любыя тыя, што растуць на лузе, у полі. І травы, і кветкі. Шкадую, што акурат яны і трапляюць пад касілку. Але без іх і сена не мела б такога водару.

Ты любіш пах сена? Ой, зусім забылася, ты ж гараджанін.

Мроі, мроі...

Дзе тваё месца, жанчына, у гэтым жыцці? Усе твае планы рухнулі. Сябар цябе не зусім зразумеў, не падтрымаў. І ты зноў — няхай і часова — адна.

Прытулілася да чужой кампаніі, п'янай. Які жах! Які жах, ты нават выпіла? Спрабавала паднесці да вуснаў і цыгарэту, упершыню спрабавала. І ўсё таму, што цябе тут ніхто не разумее, ніхто.

А ён? Ён у гэты час шчыруе на нечым дні нараджэння. Там, куды не пайсці не мог.

А ты? Што ты? Сапраўды, у цябе і з ім шмат рознага.

* * *

Прабач. Я памылілася. Ты такі ж, нават я зноў адкрываю цябе. Ты просты і няпросты. І мне зноў цікава з табой.

Між іншым, заўваж, як бяжыць час. Хутка бяжыць. Зноў не паспелі хоць бы нагаварыцца ўдосталь. І сябры ў цябе сапраўдныя. Як цудоўна, што мы ўсе размаўлялі на роднай мове. Вы ўсе такія розныя і такія блізкія мне сталі. Ты, твае сябры, і мой горад. Ваш горад, значыць і мой. Горад, які аб'яднаў нас усіх...

Ты мяркуеш, што нас яднае аднолькавая кроў. А ці не заўважыў ты, што і ў нас спачатку было слова?! Так, так — роднае слова! Наша, беларускае...

* * *

А ўсё-ткі, чым ты зараз заняты? Калі шчыра, то сапраўды мне хочацца, каб ты ўспамінаў мяне. Не, не, я не жадаю... І нават... А ўвогуле, якая розніца? Як добра, што мы пазнаёміліся. Як сумна, што мы не можам больш сустракацца.

* * *

Апоўнач. Чым ты зараз заняты?..

Вой, што гэта? Пацалунак сарваўся з маіх вуснаў і пераадольвае адлегласць да цябе. Вунь, ён ужо побач з табой. Вазьмі яго. Не, не, да твару не паднось. Лепш пакладзі ў кнігу перад сабой (я ведаю, што ў гэты час ты чытаў) і засушы на памяць..

Не згодны? Тады як хочаш.

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Дом друку, праспект Ф. Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-56-53.

Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.

# “ЧОРТАЎ ТУЗІН”

## Менавіта столькі суполак уваходзіць у новую маладзёжную арганізацыю

*Час мяняецца. І паўтарае сам сябе, як кажуць, “з дакладнасцю ды наадварот”. І настальгічныя ноткі: а вось раней... Вось раней быў камсамол — авангард савецкай моладзі, які амаль усю гэтую моладзь у сябе ўключаў. Але быў і Камітэт маладзёжных арганізацый. Назва, здаецца, гаворыць сама за сябе. А фактычна — аддзел таго ж камсамола. А задумка была выдатнай — аб’яднаць суполкі моладзі як для кантактаў паміж сабой, так і для сувязей з замежжам: і на іншых пaглядзець, і сябе паказаць. Аднак — не ўдалося. Дакладней — удалося, толькі не тое. Хаця структура існавала, мела добрыя кантакты, пэўная праца вялася і гэтага нельга адмаўляць. Але вернемся ў час цяперашні...*

Камсамол як арганізацыя масавая развaліўся. І “на абломках”, а можа, і па-за імі, пачалі ўзнікаць структуры новыя: невялікія, ды шматлікія. А калі ёсць што аб’ядноўваць, значыць — “святое месца” доўга пуставаць не будзе. І на месцы Камітэта маладзёжных арганізацый у верасні 1991 г. узнік... Камітэт маладзёжных арганізацый, дарэчы, цяпер ужо Нацыянальны (НКМА). На сённяшні дзень у яго ўваходзіць 13 арганізацый рознага ўзроўню. Такое вось аб’яднанне маладзёжных суполак: розных і па сваім колькасным складзе, і па фінансавым стане. Так, НКМА аб’ядноўвае такія структуры, як Студэнцкі саюз Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, які, дарэчы, фінансаваў з’езд, і экалагічную арганізацыю “Моладзь на службе навакольнага асяроддзя”, што налічвае толькі каля 30 членаў. У Камітэт уваходзіць Саюз моладзі Беларусі, Дзіцячы фонд, піянерская арганізацыя, вядомыя здаецца, усім, і суполкі, нават назвы якіх мала хто ведае, напрыклад, “Чырвоны Жонд”. Канешне, такі разнапланавы склад адразу выклікае заканамернае пытанне: а ці ёсць сэнс у такім аб’яднанні, ці ёсць ідэя, што звязвала б такія непадобныя адно да аднаго згуртаванні?

Пасля з’езда я магу ўпэўнена адказаць: галоўнае, што з’ядноўвала ўсіх, — гэта тое, што кожная арганізацыя займаецца вырашэннем праблем моладзі сіламі самой моладзі. Дарэчы, ці не прыгадваецца вядомы выраз: “ратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў”? Асабіста я ўзгадала яго, калі зайшла размова пра прыняты не так даўно Закон “Аб агульных асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь”. Закон ёсць закон, ён, як кажуць, не абмяркоўваецца, а выконваецца. Але, заўважу, “спосаб” выканання — рэч немалаважная. Тым больш, калі ў тэксце заканадаўчага акта сустракаюцца месцы, што даюць падставы для двухсэнсоўных вытлумачэнняў, такія як у артыкуле 19: “У мэтах стварэння неабходных умоў для функцыяніравання зарэгістраваных маладзёжных аб’яднанняў, уплыву на характар і накіраванасць іх дзейнасці дзяржава можа аказваць ім матэрыяльна-фінансавую і арганізацыйную падтрымку”. Мне дык адразу прыгадаліся хрэстаматыйныя радкі Маякоўскага: “бьем грошом — очень хорошо”. Можа, віною таму маё дылетанцтва ў юрыспрудэнцыі. А хутчэй, перакананне, што законы выконваюць людзі, і сумненне, а ці атрымаецца стварыць такія дзяржаўныя органы, якія аб’ектыўна, справядліва і раўнапраўна размяркоўвалі б сродкі? Ці не зможа здарыцца так, што замест дапамогі атрымаецца фінансавы жупел? Ці не будзе магчымасць падтрымкі ці не падтрымкі залежаць ад асабістых прыхільнасцей і інтарэсаў тых, хто “там, наверсе”. Наўрад ці хто здолее адказаць зараз на гэтыя пытанні. Час пакажа.

І ўсё ж вернемся да з’ездаўскіх падзей. 8 арганізацый з 13 было прадстаўлена. Вырашаліся праблемы пераважна ўнутраныя. Але адну з іх я хацела б адзначыць. Гэта пытанне канцэпцыі дзейнасці НКМА. Асноўных пунктаў гледжання было два. Першы — гэта аб’яднаць як мага болей маладзёжных арганізацый, якія не супярэчаць закону, незалежна ад іх фінансавага становішча (якое, як вы можаце лёгка зразумець, у большасці выпадкаў будзе зусім не “бліскучым”). Такі шлях патрабуе дзяржаўнай дапамогі, а яна “ці то будзе, ці то не”. Другі шлях — абыходзіцца сваімі сіламі, што спараджае сітуацыю, калі больш “заможныя” арганізацыі “цягнуць” за свой кошт бяднейшых і драбнейшых. Альбо ўзнікае патрэбнасць у “натуральным адборы”, які пакіне па-за бортам невялікія суполкі. Але, думаю, пазіцыі гэтыя не палярныя, і іх спалучэнне здаецца мне цалкам магчымым. На жаль, не было на з’ездзе НКМА нікога ад Вярхоўнага Савета, нягледзячы на запрашэнне. Бо кантакт тых, хто займаецца стварэннем новай структуры пры адпаведнай падкамісіі — Савета маладзёжных арганізацый, з НКМА, які ўжо створаны, дзейнічае і аб’ядноўвае суполкі моладзі, мог бы быць карысным, асабліва ў свеце новага Закона. Можа, справы былі важнейшыя, а можа, да Гомеля ехаць далёка?..

Але НКМА пакуль існуе, і, думаецца, мае пэўныя перспектывы. Як паведаміў старшыня прэзідыума НКМА Міхаіл Бязручанка, яшчэ каля 5 арганізацый збіраюцца ўступіць у НКМА. Дарэчы, слова “нацыянальны” ў назве камітэта — зусім не сведчанне прыхільнасці да адной нацыянальнай ідэі. Бо і ў Статуце, і на з’ездзе адзначалася, што НКМА — незалежны, неўрадавы Саюз маладзёжных, юнацкіх і дзіцячых грамадскіх аб’яднанняў, у які могуць уваходзіць палітычныя, прафесійныя, спартыўныя, культурныя, экалагічныя, творчыя, нацыянальныя, рэлігійныя, навукова-тэхнічныя, студэнцкія і іншыя зарэгістраваныя арганізацыі. Такі вось шматпланавы і шматнацыянальны Нацыянальны Камітэт.

Не варта думаць, што чакае новую арганізацыю толькі “цішыня, спакой ды добрае надвор’е”. Складаны час ставіць жорсткія патрабаванні. А ў адносінах да грамадскіх арганізацый гаворка ідзе нават не пра вялікія дасягненні, а проста пра магчымасць існавання, выжывання, пра цяжкасць нават у мінімальным выкананні статутавых мэтаў і задач. І не дапаможа ні “заграніца”, ні “добры дзядзечка з чамаданам грошай”. Тут неабходнасць інтэграцыі, аб’яднання намаганняў проста відавочная.

Адзін у полі — не воін. Дзякуй Богу, ісціну гэтую пакрысе пачынаюць усведамляць усе. І дай Бог, каб НКМА адыграў сваю ролю мастка, пасрэдніка між рознымі светапоглядамі і ідэалогіямі, што асабліва важна ў неўраўнаважаны, няпэўны час у рэспубліцы, вакол якой палаюць міжнацыянальныя канфлікты.

**А.ВОЛІЧ.**

У чатырнаццатым нумары нашага штотыднёвіка быў надрукаваны артыкул Л.Любімавай "Чароўная піратка". Пасля гэтага рэдакцыя атрымала вялікую колькасць пісьмаў чытачоў (галоўным чынам чытачак) з просьбай працягнуць гэтую размову. Сёння выконваем вашу просьбу.



набліжалася. База, дзе рамантаваліся, назапашвалі харчаванне і ваду, адпачывалі, збывалі здабычу, была знішчана. Толькі зрэдку маглі адпачыць піраты дзе-небудзь у ціхай непрыкметнай бухце. Аслабла дысцыпліна, пачаліся п'янкі ў час плавання, азартныя гульні... Аднойчы вечарам, у разгар чарговай папойкі, піраты не заўважылі ветразяў англійскай эскадры. Брыганціна была ўзята на абардаж. Шмат хто з піратаў нават не заўважыў, калі і як апынуўся ў кайданах.

Суд на Ямайцы, куды прывезлі захопленых галаварэзаў, цягнуўся нядоўга — усяго два дні. Піратаў (а іх было каля 300) 18 лістапада 1720 года павесілі. Дам-піратак судзілі асобна і крыху пазней. Прыгавор суда быў такі ж. Але казнілі толькі Мэры Рыд. Ганну Боні выратавалі сувязі і грошы бацькі. Выкананне прыгавора было адкладзена, а затым Ганна атрымала каралеўскае памілаванне. Між іншым, да бацькоў пасля вызвалення яна не вярнулася. Далейшы яе лёс застаўся невядомым.

Гісторыя пірацтва памятае імя яшчэ адной жанчыны, якая атрымала права не толькі пірацтваваць, а нават узначальваць піратаў у двубаі са сваім родным братам. Гэта Грэйс, правадыр ірландскага клана О'Мэйл.

Грэйс з дзяцінства суправаджала бацьку ў яго марскіх паходах. Яна праславілася незвычайнай адвагай. Калі Оуэн О'Мэйл (яе бацька) памёр, то старэйшыны пераемнікам загінуў і праз нейкі час Грэйс ізноў выйшла замуж. Новы яе абранец Рычард Барк за сваю адвагу меў прозвішча "Жалезны Рычард". Па ірландскіх звычаях, шлюб заключаўся толькі на год. Грэйс размясціла ў замках мужа сваіх воінаў, а калі год скончыўся, разарвала шлюб. Замкі ж і частка зямлі Барка засталіся ў яе руках.

Барк пакляўся адпомсціць. Паколькі сваіх людзей не хапала, то ён звярнуўся да англічан.

...Грэйс паведамілі, што невялікі атрад англічан уварваўся ў яе ўладанні. Яна з некалькімі дзесяткамі воінаў кінулася ім насустрач. Англічане не прынялі бой, а кінуліся ўцякаць. Атрад Грэйс кінуўся наўздагон і... трапіў у засаду. На ірландцаў з усіх бакоў накінуліся закутыя ў даспехі воіны Барка і вялікі атрад англічан. Ірландцы мужна абараняліся, але на кожнага з іх прыходзілася па дзесятку ворагаў. Бачачы, што пад коп'ямі і мячамі гінуць апошнія яе паплечнікі, Грэйс хацела закалоцца сваім мячом. Але і гэтага ёй не далі. Былы муж не жадаў дапусціць, каб яна так лёгка памерла. Ён наладзіў "суд", які павінен быў вызначыць лёсы Грэйс і некалькіх захопленых у палон яе воінаў. Суд, зразумела, прыгаварыў іх да павешання. Тое, што ноч перашкодзіла рабіць шыбеніцу, толькі парадавала Барка і яго сяброў. Палонных прывязалі да дрэў, а пакаранне адклалі да ранку. Ноччу ж лагер Барка быў цалкам знішчаны воінамі клана О'Мэйл.

# ЛЭДЗІ ЎДАЧЫ

Піраты... Пры гэтым слове адразу ўяўляюцца загарэлыя барадатыя галаварэзы з шаблямі ў руках ды нажамі ў зубах або аднаногі граміла Джон Сільвер з папугаем на плячы. А вось жанчына-пірат — такое ўявіць цяжка. Ну хіба што дзесьці там, на далёкім загадкавым Усходзе, пра які яшчэ чырвонаармеец Сухаў з кінафільма "Белае сонца пустыні" гаварыў: "Усход — справа тонкая"... А вось каб еўрапейская жанчына ды піратка? Гэта здаецца немагчымым.

А, між тым, у шматвяковай гісторыі марскога рабаўніцтва час ад часу сустракаюцца і жаночыя імёны. Адна з падобных "лэдзі", якая дзейнічала ў Міжземным моры, прыгадваецца яшчэ ў VIII стагоддзі да нашай эры.

Найбольшую ж цікавасць даследчыкаў і найбольшую вядомасць маюць Мэры Рыд і Ганна Боні.

Англічанцы Мэры Рыд, здавалася, з калыскі нагадалі пражыць бурнае, поўнае самых неверагодных прыгод жыццё. Ужо ў 13-гадовым узросце яе пад выглядам хлопчыка аддалі служыць знатнай напышлівай даме. Але Мэры нядоўга цярпела капрызы сваёй гаспадыні. Яна збегла і ўладкавалася юнгай на гандлёвы карабель. На ім "дарасла" да матроса. Пазней жа змяніла шмат прафесій. Найбольш цікавыя з іх — драгун галандскай арміі, а потым (калі яе сакрэт раскрылі) — самая разбітная маркітантка ў тым жа палку. Тады ж выйшла замуж за свайго аднапалчаніна. Пасля смерці мужа вырашыла зноў звязаць свой лёс з морам. Але галандскі карабель, на якім яна ўладкавалася матросам, быў захоплены піратамі. Тыя прапанавалі жадаючым далучыцца да іх. Сярод членаў каманды, якія згадзіліся з гэтай прапановай, быў і Мак (так называлася Мэры пры ўладкаванні). Хутка яе сакрэт стаў вядомым. Але да гэтага часу Мэры паказала сябе вопытным мараплаўцам і адчайным рубакаю. Ніхто не спрабаваў абразіць яе. Толькі аднойчы якісьці навічок паспрабаваў "лапаць" даму. Ён быў збіты з ног ударам "пяшчотнага" кулака ў скіўіцу. Раз'юшаная Мэры тут жа выклікала крыўдзіцеля на двубой. Зброя — шаблі. І граміла праз некалькі хвілін быў засечаны.

У хуткім часе пасля гэтай падзеі карабель, на якім плавала гэта прадстаўніца "слабога полу", быў патоплены іспанцамі. Большасць піратаў загінула ў баі, а рэшткі захопленых пераможцамі і перавешаны на рэях. Мэры ж нейкім цудам выратавалася на шлюпцы. Некалькі дзён яе насіла па акіяне. Піратка ледзь не памерла ад смагі. У той момант, калі яна ўжо канала, яе падабраў экіпаж брыганціны, якая выпадкова апынулася ў гэтых водах. "Дракон" (так называлася брыганціна) таксама аказаўся пірацкім караблём. І што яшчэ больш дзіўна — на ім таксама была раўнапраўным членам экіпажа жанчына. Гэту піратку звалі Ганна Боні.

Дзяцінства Ганны прайшло зусім інакш, чым у Мэры. Дачка шырока вядомага ў Вест-Індскіх уладаннях Англіі гандлёвага маклера і адваката, яна магла разлічваць на спакойнае забяспечанае жыццё, але... закахалася ў простага матроса. Яе каханы мог пахваліцца толькі магутнымі біцэпсамі і татуіроўкай, якая пакрывала ўсё яго цела. Калі ж ён прыйшоў прасіць руку Ганны ў яе бацькі, то той выкінуў жаніха за дзверы. Следам ён выкінуў і дачку.

Закаханыя вырашылі перабрацца далей ад раз'юшанага бацькі і падаліся на Багамскія астравы. Мэтай іх "шлюбнага падарожжа" быў Нью-Правідэнс, які ў тыя часы з'яўляўся адным з апорных цэнтраў "берагавога брацтва" (так называлі сябе піраты Карыбскага басейна). Тут заўжды можна было ўладкавацца на які-небудзь карабель. Гэта і збіраўся зрабіць Джэймс Боні. Ён прапанаваў свае паслугі аднаму з самых удачлівых у той час капітанаў Рэкэму-Сітцаваму Джэку. Пры сустрэчы Рэкэм пачаў пераміргвацца з Ганнай. Раўніваму мужу гэта не спадабалася. Ён выхапіў з-за пояса нож — і... быў знойдзены на наступны дзень збітым да паўсмерці. Ганна ж пад імем Анрэса накіравалася ў плаванне разам з Сітцавым Джэкам. Пра яе тайну ведаў толькі капітан. Яна, як і ўсе, несла вахты, ставіла і прыбірала ветразі, у складзе абардажнай каманды ўдзельнічала ў рукапашных схватках, п'янствавала разам з усімі пасля чарговай удачы. А ў стральбе параўнацца з ёй не мог ніхто.

Праз некалькі месяцаў Ганна стала жонкай капітана. Ёй не трэба было таіцца, бо экіпаж лічыў яе "сваім хлопцам", да таго ж быў упэўнены, што яе прысутнасць на караблі прыносіць удачу. "Дракон" заўжды вяртаўся з паходаў на Нью-Правідэнс з вялікай здабычай. Неадноўчы за гэты час карабель і экіпаж знаходзіліся на краі гібелі, але кожны раз пазбягалі яе. Гэтаму спрыялі амаль воўчае чуццё на небяспеку і жорсткасць Сітцавага Джэка. На "Драконе" ў плаванні панавала рэдкая для піратаў дысцыпліна. Менавіта дзякуючы гэтаму ён вырваўся з капкана, які наладзіў для піратаў англійскі адмірал сэр Вудэн. Той перакрыў караблямі сваёй эскадры выхад з гавані Нью-Правідэнса і спаліў усе пірацкія караблі, якія стаялі ў ёй. Вырваўся толькі "Дракон".

Пасля гэтага экіпажу Сітцавага Джэка шанцавала, як і раней. Але бяда

выбралі яго сына — чатырнаццацігадовага Адольфа. Але Грэйс не згадзілася з гэтым. Яна заявіла: "Я старэйшая за брата, і першынство па праву павінна належаць мне. Паколькі ж старэйшыны выбралі яго, то я выклікаю Адольфа на бой. Як кажуць нашы законы, месца правадыра зойме той, хто пераможа. Хай Бог пакажа, хто з нас больш дастойны заняць месца бацькі".

Двубой адбываўся на беразе мора. Узброеннем з'яўляліся кароткія нажы. Сведкаў і секундантаў не было (так патрабавалі звычаі). Усе былі ўпэўнены ў перамозе юнака. Але, на здзіўленне старэйшын, пераможцай стала Грэйс.

Так упершыню ваяўнічы ірландскі клан узначаліла жанчына. Грэйс прывучыла да таго, што вернасць трэба захоўваць толькі да членаў роднага клана. Усе іншыя — ворагі, і ў барацьбе з імі падыходзяць любыя метады.

На пачатку свайго кіраўніцтва Грэйс правяла змяненне тактыкі пірацкай дзейнасці. У паход яна і яе родзічы накіроўваліся не на адным-двух вялікіх караблях (як рабілі яе бацька і іншыя ірландскія піраты таго часу), а на цэлай эскадры невялічкіх лёгкіх парусна-вёсельных суднаў. Маючы іх, можна было лёгка манеўраваць, хутка перастройвацца, ухіляючыся ад варожых гармат, і накідвацца на здабычу, бы ваўкі, з усіх бакоў.

Гэта тактыка пачала прыносіць вялікую здабычу. Не адзін з атакаваных піратамі гандлёвых караблёў не мог уратавацца. Пасля таго, як усё каштоўнае было выгружана, іх тапілі. У Грэйс і яе паплечнікаў пачалі назапашвацца вялікія багацці. Разумеючы, што на іх могуць спакусіцца і суседзі, і іспанцы, і англічане (тым больш і тыя, і другія неслі вялікія страты з-за дзейнасці клана О'Мэйл), Грэйс пачала ўмацоўваць свой радавы замак. Вышыня сцен была значна павялічана. На іх паставілі катлы з вадой, а пад катламі — сухія дровы. На той выпадак, калі ворагаў не спыніць кіпень, там жа былі ўкладзены велізарныя валуны, якія лёгка можна было абрынуць уніз на галовы нападаючых. У замку заўжды меўся вялікі запас харчоў. Усё было падрыхтавана для таго, каб вытрымаць аблогу любога варожага войска.

Паводзінамі Грэйс нічым не нагадвала жанчыну. Сямейнае жыццё зусім не прываблівала яе. Толькі настойлівыя ўгаворы старэйшын прымусілі піратку выйсці замуж за знатнага, дужага і слаўтага военачальніка аднаго з суседніх кланаў. Але і гэтая падзея не змяніла паводзін Грэйс. Яна працягвала пірацтваваць. Яе муж

Лёс часта жартуе, і вельмі моцна. Грэйс, не паспеўшы пазбавіцца аднаго палону, трапіла ў другі. Прычым гэты новы палон выклікаў здзіўленне ўсіх блізкіх. Справа ў тым, што адважная піратка... закахалася. І закахалася яна ў іспанца. У час чарговага пірацкага паходу сярод маракоў захопленага гандлёвага карабля яна ўбачыла вельмі прыгожага белавалосага юнака родам з Кадзіса. Уражанне, якое зрабіў на Грэйс гэты юнак, было настолькі моцным, што яна патрабавала прыняць яго ў клан. І, што яшчэ больш неверагодна, гэта патрабаванне было выканана. Юнак стаў О'Мэйлам і з гэтых часоў удзельнічаў ва ўсіх паходах сваёй каханкі.

Слава Грэйс О'Мэйл раснеслася далёка. Яе імя ведалі не толькі жыхары невялічкага астраўка, на якім яна вырасла, і не толькі ў Ірландыі. З жахам успаміналі яе купцы і мараходы на розных берагах Атлантычнага акіяна. Яе імя можна было пачуць і ў партовым кабачку, і ў палацы знатнага вяльможы. Слава гэта данеслася і да вушэй правіўшай у той час у Англіі каралевы Лізаветы. Жадаючы абясшкодзіць гандаль сваёй краіны і выкарыстаць Грэйс і яе імя для барацьбы з бясконцымі паўстаннямі ў Ірландыі, каралева накіравала піратцы пасланне. Гэты дакумент утрымліваў усеміласцівейшае дараванне пірацкай дзейнасці і прапанову заключыць саюз. Каралева запрашала прыехаць да яе ў госці.

Грэйс (былая ўжо ў гадах) згадзілася. Яна пагасцявала ў Лізаветы ў Лондане, заключыла саюз. А ад ганаровай прапановы стаць прыдворнай, як і ад графскага тытула, на здзіўленне ўсёй каралеўскай світы, адмовілася. Гэту адмову яна растлумачыла коратка: "Мне не патрэбны тытулы, не маючыя ніякай каштоўнасці. Дазволь мне застацца проста ўладаркай маіх астравоў". Праз некалькі гадоў пасля гэтай падзеі Грэйс О'Мэйл памерла. І памерла, як гэта ні дзіўна, не ў час дальняга марскога паходу, не ў баі, а на ложку ў сваім замку, і пахавана была ў роднай зямлі.

Але адно з ірландскіх паданняў сцвярджае, што ў магіле яе няма. Яно паведамляе, што цела яе было выкрадзена тым самым каханцам-касцільцам і што быццам бы ён пагрузіў яго ў лодку, падняў на ёй ветразь і адплыў у начное мора.

Было так ці гэта проста прыгожая выдумка, хто ведае? А хочацца ўсё ж паверыць, што каханы адважнай правадыркі клана О'Мэйл сапраўды ажыццявіў такое, што ён па праву заслужыў каханне гэтай слаўтай "лэдзі ўдачы".

Мікола БАГАДЗЯЖ.

# ПРЫВАТНЫ ДЭТЭКТЫЎ

*Атрымаўшы ўдар па галаве цяжкім тупым прадметам, вы наўрад ці захаваеце схільнасць да філасофскіх разваг, ва ўсялякім выпадку, на працягу некаторага часу. Менавіта гэта і адбылося ў адзін не зусім цудоўны вечар з Мікалаем К. Апрытомнеўшы наступнай раніцай, ён доўга не мог зразумець, дзе знаходзіцца і што з ім адбылося: кватэра была быццам знаёмая, але хутчэй нагадвала поле бою мясцовага значэння, чым жытло. Нарэшце, акунуўшыся ў цеплаватую ваду з-пад крана і прыклаўшыся да недапітай бутэлькі гарэлкі, Мікалай сеў на раскіданы ложак і пачаў успамінаць...*

Так адбылося ў ягоным жыцці, што, нарадзіўшыся ў Мінску, Мікалай вымушаны быў пераехаць у Якуцкую рэспубліку. У Мінску засталася былая сям'я, якую ён не забываў. Вось і на гэты раз, вяртаючыся з вяселля сябра ў Барысаве, заехаў да былой жонкі.

Вяртаўся, як звычайна вяртаюцца з такіх "мерапрыемстваў", у вясёлым настроі. Ад выпітага шумела ў галаве. Дома нікога не было, і Мікалай вырашыў выйсці на вуліцу. Каля пад'езда ігралі на гітары хлопцы. Мікалай падышоў да іх, пазнаёміўся: адзін назваўся Сяргеем, другі — Дзімам. Пад уплывам успамінаў пра маладосць Мікалай расчуліўся, сам сыграў на гітары, расказаў сваім новым знаёмым, што прыехаў з Якуціі ў адпачынак. Як водзіцца, вырашылі замацаваць новае сяброўства выпіўкай. Мікалай запрасіў хлопцаў у кватэру, дзе і распілі бутэльку. Паказалася мала, паслалі "ганца" па новую...

Нішто не азмрочвала радасць сабутэльнікаў, пакуль Мікалай не заўважыў, што адзін з хлапцоў — Дзіма — вядзе сябе неяк незвычайна: ходзіць па кватэры, па-гаспадарску адчыняе шафы, разглядвае рэчы, некаторыя складвае ў вялікую сумку. Толькі тут да Мікалая дайшло, што яго рабуюць.

— Хлопцы, ды вы што, гэта ж не маё, — ён спрабаваў звярнуцца да сумлення "сяброў".

Сяргей у адказ на гэта толькі злобна ўсміхнуўся:

— Сядзі ўжо ціха, а то ўвогуле заб'ём.

Хлопцы, не звяртаючы на яго ўвагі, працягвалі сваю справу. Мікалай паспрабаваў непрыкметна выйсці з кватэры, каб паклікаць на дапамогу, аднак атрымаў моцны ўдар у жывот і на некаторы час страціў прытомнасць. Потым рабаўнікі, якім, відаць, падалося мала, патрабавалі ад Мікалая напісаць распіску, быццам ён вінен ім 10 тысяч, і калі той адмовіўся, ударылі яго па галаве...

Мікалай устаў з ложка. Жудасна балела галава, хацелася выпіць яшчэ, каб хоць неяк заглушыць боль, аднак па падлозе былі раскіданы толькі пустыя бутэлькі. Дрыжачымі рукамі Мікалай выцягнуў з кішэні кашулі пакамечаны пачак цыгарэт, закурыў і стаў бессэнсоўна ўглядвацца ў свае босыя ногі ("прыяцелі" не забылі зняць з яго джынсы).

Што рабіць? Як глядзець у вочы былой жонцы, якая даверліва пакінула яму ключы ад кватэры? Мікалай затушыў цыгарэту і кінуўся ліхаманкава наводзіць парадак, адначасова падлічваючы ў галаве, што знікла: грошы, ювелірныя вырабы, электрагітара і іншая апаратура. Сабутэльнікі не пасаромеліся забраць нават такія дробязі, як будзільнік і касметыка.

Праклінаючы сваю даверлівасць, Мікалай паспрабаваў успомніць хоць нейкую зачэпку, каб знайсці ўчарашніх "знаёмых". Інакш было б дарэмна звяртацца ў міліцыю: паспрабуй знайсці "таго, не ведаю каго" ў сталічным горадзе... Мікалай хутка апрануўся і выбег на вуліцу. Перш за ўсё пашукаў каго-небудзь з кампаніі ў двары. Потым пачаў распытваць грузчыкаў бліжэйшых крам...

Шукаў рабаўнікоў Мікалай цэлыя два дні і нарэшце знайшоў. На гэты раз ён быў цвярозы і таму вырашыў не рызыкаваць. Сам не стаў "разбірацца" з Дзімам і Сяргеем, а выклікаў па тэлефоне міліцыю. Яна і затрымала рабаўнікоў — 34-гадовага Сяргея Старавойтава і 24-гадовага Дзмітрыя Вераб'я.

Народным судом Першамайскага раёна г.Мінска яны асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі кожны.

П.Сіманаў, Л.Гранкоўскі.




## ІНФА-КРЫМ

### Звычайны вандалізм

Днямі ў міліцыю звярнуўся жыхар Мінска, які паведаміў, што з магілы яго бацькоў на Паўночных могілках выкрадзены помнік з чорнага граніту, які па сучасных мерках каштуе звыш 15 тысяч рублёў.

### Шукай ветру ў полі...

У ноч на 15 чэрвеня абрабавалі саўгас "Азёрны" Мінскага раёна. З мясцовай стайні знікла кабыліца чорнай масці. "Цыганская балада" працягваецца?..

### "Пячаткі няма дзе ставіць"...

У гэтую ж ноч невядомы, узламаўшы краты (!), пранік у бытоўку завода тэхналагічнага абсталявання ў Салігорску. Выкрадзена некалькі тысяч рублёў, спіртное, тэлефонны апарат і... 47 пячатак і штампаў прадпрыемства. Цікава, дзе злачынца збіраецца іх ставіць?

### Замест турмы – выцвярэзнік

Падраздзяленні былой Савецкай Арміі пакінулі Чэха-Славакію, але на яе тэрыторыі засталіся многія ваенныя будынкі і аб'екты.

Так, былая ваенная турма савецкага гарнізона ў Трутнове прыстасавана пад... выцвярэзнік.



## ІНФА-КРЫМ

### Карысная парада



Традыцыйныя спосабы выкарыстання ў дамах і кватэрах ланцужкоў для дзвярэй і нават электронікі не ўяўляюць сабой, паводле сведчання спецыялістаў, сур'ёзных перашкод для ўзломшчыкаў. Лепш за ўсё ўмацоўваць замкі ў дзвярныя каробкі зафіксаванымі ў сцяне моцнымі дзюбелямі.

На здымку: замок з загараджальнай скабой — лепш за ланцужок.

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

*Імя маладога беларускага кампазітара Зміцера Яўтуховіча добра вядома ўсім. Ягоныя песні "Пад зоркаю "Пагоні", "Даставай, Язэп, гармонік", "А ў гасцях...", "Калыханка" і іншыя сталі ўжо папулярнымі. Дарэчы, у хуткім часе "Калыханка" загучыць і на англійскай мове — ёю зацікавіўся канадскі паэт Джэймс Бэл і зрабіў пераклад верша Лявона Пранчака.*



# ПАД ЗОРКАЮ "ПАГОНІ"...

## Госць "Чырвонай змены" — кампазітар Зміцер ЯЎТУХОВІЧ

Шаноўным "чытачам "Ч.З." — прапаную штотыдзень спяваць хаця б адну з маіх песень, тады Вам жыць будзе весялей.
Зм. Яўтуховіч

Зміцер Яўтуховіч, як кажуць, музыкант "па паходжанню". Бацька — скрыпач, маці — піяністка. У ягоныя няпоўныя яшчэ трыццаць за плячыма — музычная школа і вучылішча, кансерваторыя, аспірантура. І шмат добрых настраёвых песень. Жыве Зміцер у адным з інтэрнатаў Мінска, мае два невялікія пакойчыкі, у якіх разам з ім жывуць жонка Іна і дачка Валерыя. Зміцер — вясёлы кампанейскі хлопец, які, як сцвярджае ён сам, дрэнна разбіраецца ў модзе, імкнецца выглядаць маладым і змагаецца за тое, каб песня "Атас" перастала быць "самай любімай" у хлопчыкаў і дзяўчынак дзіцячых садкоў і малодшых класаў школы. Ну, а пра ўсё астатняе няхай распавядае сам Зміцер:

— Пакуль што мне шанцуе і шанцавала ўвесь час. Я магу сказаць, што ўсё тое, што я раблю, не каштуе мне нейкіх вельмі вялікіх намаганняў. Музыка — гэта маё, так бы мовіць, хобі і для мяне вялікае задавальненне ствараць яе. Канешне, ёсць творы, над якімі мне прыходзіцца "пасядзець", але ў асноўным усё адбываецца неяк само сабой. Вось я сказаў, што мне ўвесь час шанцуе. Пашанцавала трыццаць гадоў назад нарадзіцца ў сям'і музыкантаў, пашанцавала вучыцца ў Дзмітрыя Бранiслававіча Смольскага, у класе якога я скончыў кансерваторыю і аспірантуру ў 1990 годзе. Пашчасціла і з прапановай у 1986 годзе папрацаваць у ансамблі "Песняры", дзе за два гады я аб'ездзіў амаль увесь Саюз, зразумела, шмат чаму навучыўся, хаця і не з усім быў згодны. Пашанцавала мне і з першай маёй песняй, якую выканаў Багдан Данчык — "Калыханка". Шанцуе і цяпер — я супрацоўнічаю з цікавымі, маладымі, "незацюканымі" паэтамі і вельмі ўдзячны ім. Гэта Лявон Пранчак, Віктар Шніп, Алесь Бадак і іншыя.

**– Сапраўды, тваё супрацоўніцтва асабліва з гэтымі паэтамі вельмі і вельмі плённае. Як вы знайшлі адзін аднаго?**

— Ведаеш, выбрала мне першага паэта Зоя Урублеўская, музычны рэдактар Беларускага радыё. Адразу пасля работы ў "Песнярах" я быў у крызісным стане, год не ведаў чым заняцца. Потым арганізаваў гурт "Поп-сіндыкат", але гэта была мыльная бурбалка, толькі студыйны запіс і зрэдку канцэрты. Мяне гэта не задавальняла, але я не ведаў, куды падзецца. На той час пісаў музыку на расейскія вершы. Не, я, здаецца, нядрэнна ведаў беларускую паэзію, але сугучных сабе тэм не знаходзіў. І тут Зоя Лявонцьеўна мне параіла Лявона Пранчака, які працаваў у ЦК камсамола. Мяне гэта, калі шчыра, трохі насцярожыла, бо пісаць наменклатурныя песні зусім не хацелася. Аднак, потым высветлілася, што Лявон "выбіваў" з камсамола кватэру. Я пазнаёміўся з ім. Як чалавек, ён вельмі мэтанакіраваны, і ва ўсім, што робіць, добра вызначаецца адзін накірунак — беларушчына. Дарэчы, дзякуючы Пранчаку я навучыўся размаўляць на беларускай мове. Мы пачалі з Лёнем працаваць і ўжо праз паўгода з'явілася дзесяць песень, а калі дадаць дзіцячыя, то атрымаецца пятнаццаць. Сярод іх — "Белая раніца", "Пяшчота", "Пад зоркаю "Пагоні", "Полацак", "Беларускія манкурты", "Чабаровая паляна", "Даставай, Язэп, гармонік", "Добрай ночы" і іншыя. У паэзіі Пранчака я ўбачыў нешта прынцыпова новае, адметнае. І сёння я магу ўпэўнена сказаць, што Пранчак — вядучы паэт-песеннік на Беларусі. Літаральна ўсе пасля мяне пачалі пісаць на яго вершы...

**– Ты хочаш сказаць, што ты першы яго "адкрыў" як добрага паэта-песенніка?**

— Так, а ён мяне "адкрыў" як кампазітара. Мы "адкрылі" адзін аднаго. Ён мне сам казаў, што пісаў песні з іншымі кампазітарамі, але найбольш удалымі лічыць сумесныя. Тое ж самае і я. Лепшыя на сённяшні дзень мае песні напісаны на вершы Пранчака. Праўда, вельмі ўдалай мне падаецца песня "А ў гасцях" на словы Віктара Шніпа. Ну, і Алесь Бадак як паэт мне вельмі даспадобы. Але, калі шчыра, да ўзроўню Пранчака мы яшчэ не дайшлі. Я маю на ўвазе не ўзровень самой паэзіі: гэта не так важна, таму што ў песні паэзія — не самае галоўнае. Я маю на ўвазе суадносіны слоў і музыкі з беларускага пункту гледжання.

**– Ты сказаў, што ў песні паэзія не галоўнае. Гэта, відаць, твой кампазітарскі погляд на песню, бо, як вядома, "з песні слова не выкінеш"...**

— Тут справа ў тым, што існуюць розныя песенныя накірункі. Скажам, у песнях такіх гуртоў, як "Кіно", "Наўцілус" першая роля належыць тэксту, а музыка гэта дадатак, афарбоўка. Тое ж самае і ў бардаўскай песні. Там інтанацыя не адыгрывае нейкай значнай ролі. Я ж працую над песеннай інтанацыяй. Цяжка растлумачыць, што гэта такое, бо трэба выкарыстоўваць музыказнаўчыя тэрміны, але паспрабую. Ну, напрыклад, ёсць, і гэта ўсе ведаюць, музыка без слоў, скажам, сімфоніі. Тут галоўнае, канешне, інтанацыя. А ёсць музыка са словамі. І нашы вялікія карыфеі, якім быў, скажам, Глінка, распрацоўвалі інтанацыю ў адпаведнасці з расейскім словам. Прыблізна тое ж самае я імкнуся рабіць з беларускім словам — шукаць адпаведную яму інтанацыю. Як, дарэчы, гэта рабілі і робяць усе кампазітары-песеннікі — Туранкоў, Семяняка, Лучанок. У іх атрымліваецца так, што словы вельмі натуральна кладуцца на музыку. А калі я гавару, што словы ўсё ж не галоўнае, то не маю на ўвазе абыякавы верш. Словы, канешне, павінны мець сэнс. Памятаеш, першыя песні таленавітага Раймонда Паўлса — "Прекрасны осень и зима, и лето...". Тупыя словы. Ці, скажам, "Мільён алых руж". Тым не менш, песні-шлягеры...

**– Мне здаецца, тут усё нармальна: шлягерамі якраз і становяцца песні з, мякка кажучы, немудрагелістымі словамі.**

— Тым не менш у сваіх шлягерах я бачу ідэю — вяртанне да беларусізацыі, адраджэння.

**– Ці імкнешся ты чаго-небудзь пазбегнуць у сваёй творчасці?**

— Плагіяту. Я дастаткова добра ведаю эстраду, у тым ліку і замежную, і вельмі баюся ў нечым паўтарыцца.

**– Дзіма, ты кампазітар малады. Ці можаш ты назваць каго-небудзь са сваіх старэйшых калег, хто, на твой погляд, заслужыў да сябе павагу?**

— З усіх беларускіх кампазітараў, што працавалі на працягу 70-80 гадоў, я больш усіх паважаю Уладзіміра Будніка, хаця ў яго шлягерах, як і ў маіх, ёсць часам дабрынінская пашлаватасць. Проста яго песні — гэта песні беларускія, чаго не скажаш пра не менш таленавітых Захлеўнага і Зарыцкага.

**– Мне здаецца, тваіх песень таксама не цураецца тэле-радыёэфір...**

— Ну, гэта толькі цяпер. А адразу... Напрыклад, "Пад зоркаю "Пагоні" чакала свайго часу, як немаўля, — 9 месяцаў. Так, скажам, з музычнай рэдакцыяй радыё ў мяне атрымліваецца канфлікт. Ёсць моманты, калі мне раяць, з кім супрацоўнічаць. Малады беларускі гурт "Ражство" — яны аддзяліліся ад ансамбля "Сябры" — нядаўна запісаў маю песню "Віцебскі дождж". Зрабіў гэта вельмі культурна, прыгожа, словам, мне спадабалася. А да мяне пасыпаліся пытанні: "Чаму ты з імі супрацоўнічаеш? Яны ж паўтараюць стыль Ярмоленкі". А я не лічу, што яны паўтараюць нечы стыль, яны шукаюць свой. Вось такія недарэчнасці. Як і тое, што часам рэдактары проста лянуюцца ставіць мае песні, здаваць іх у фонд. З дзіцячай рэдакцыяй поўнае ўзаемапаразуменне, а вось з музычнай...

**– Дарэчы, як ты "вылічваеш" выканаўцу той ці іншай песні? І чаму некаторыя твае песні выконваюць адразу некалькі спевакоў?**

— Ты ведаеш, я не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Наадварот, чым болей песню спяваюць, тым хутчэй яна пойдзе ў народ. Напрыклад, таго ж "Язэпа" спяваюць Барткевіч, Скорыкаў, многія самадзейныя артысты. Чуў, нават, што яе пяюць на вяселлях. Гэта вельмі добра. Такіх, сапраўды беларускіх шлягераў, у нас няшмат — "А я лягу-прылягу", "Малінаўка", "Ручнікі". Гэтыя песні "ў народзе", якія, забыўшы іх аўтараў, лічыць песні сваімі, народнымі...

**– Значыць, ты хацеў бы, каб твае песні спявалі і не ведалі пры гэтым іх аўтара?**

— Я быў бы вельмі шчаслівы, каб гэта было так. Ты спытала яшчэ наконт таго, як я "вылічваю" выканаўцу. На 99 працэнтаў гэта справа выпадку. Так, я вельмі доўга шукаў выканаўцу "Язэпа", прапаноўваў песню Ярмоленку, але той адмовіўся, спасылаючыся на вялікую колькасць "гармонікавых" песень. І мы зрабілі "Язэпа" з Леанідам Барткевічам. Дадалі крык пеўня, жаночы смех і атрымалася, на мой погляд, вельмі ўдала. Ну і калі ўжо да канца пра выканаўцаў сваіх песень, то трэба прызнацца, што часцяком на канцэртных пляцоўках выканаўцам з'яўляюся я сам: гэта хаця і не значная, але ўсё ж крыніца маіх даходаў, не ўлічваючы яшчэ мізэрных ганарараў радыё і Міністэрства культуры. А калі ўжо ставіць кропку на пытанні аб выканаўцах, то хачу яшчэ сказаць, што з вялікай цікавасцю стаўлюся да маладых, пачынаючых спевакоў. Так, спецыяльна для другога рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай папулярнай песні я напісаў некалькі новых твораў. На маю думку, вельмі паспяхова выканала дзве мае песні 14-гадовая Таццяна Воранава з Віцебска. Гэта былі "Хлопчык з гітарай" і "Так і знай" на вершы Алеся Бадака.

**– Ты яшчэ нічога не сказаў пра сваю працу з зусім маленькімі выканаўцамі...**

— Зараз я кірую дзіцячай эстраднай студыяй пры Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі пад кіраўніцтвам Міхася Фінберга. Вельмі важна з маленства прывіваць дзецям любоў да матчынай мовы, песні. Але сёння такія складаныя ўмовы жыцця, што студыям, накшталт нашай, даводзіцца цяжка. Увогуле я лічу, што дзіцячую творчасць павінны падтрымліваць фундатары, мецэнаты. Акрамя таго, што нас падтрымлівае Фінберг у нашых сумесных намаганнях з кіраўніком дзіцячага гурта "Чабарок" музычнай школы № 8 г.Мінска Святланай Пузіноўскай, з'явіўся светлы прамень у асобе буйнога прадпрыемства "Захадтрансгаз" і сумеснага беларуска-польскага прадпрыемства "Sines". Менавіта дзякуючы ім была арганізавана паездка па Падляшшы, гэта мясціны Беластоцкага ваяводства, дзе жывуць беларусы. Слухачамі ў асноўным былі школьнікі, якія цудоўна ўспрымаюць беларускія песні. Калі я спытаў, хто з выканаўцаў больш спадабаўся слухачам, амаль уся зала адгукнулася: Кацья, Кацья... Каця Прышчэпа — 11-гадовая салістка гурта "Чабарок" — стала адкрыццём для польскіх падлеткаў...

Дзіма яшчэ шмат расказваў пра свае паездкі, песні, цікавыя выпадкі. Канешне, прыгадаў і сваю першую творчую вечарыну, падзякаваўшы пры гэтым бюро прапаганды Дома літаратара. А цяпер Зміцер Яўтуховіч чакае віцебскага фестывалю "Славянскі базар", які мае адбыцца ў другой палове ліпеня і на якім мы зноў зможам сустрэцца з папулярнымі песнямі папулярнага маладога кампазітара.

Гутарыла
Майя ШЭНДРЫК,
агдядальнік "ЧЗ"
па пытаннях культуры.

*Зваротная сувязь*

# НАША АНКЕТА. ВЫНІКІ

Недасведчаным людзям здаецца: каб выпісваць у наш незразумелы час "Чырвоную змену", трэба быць альбо яе шматгадовым прыхільнікам, альбо апалагетам Адраджэння.

Каб даведацца, хто ўсё ж чытае і выпісвае наш тыднёвік, мы правялі анкетаванне. У ім былі класічныя анкетныя пытанні: узрост, пол, адукацыя, спецыяльнасць... Да нас прыйшлі шчырыя, поўныя аптымізму пажаданні не толькі тых, хто выпісвае "Чырвонку" на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, але і моладзі. Сёння мы друкуем самыя цікавыя з адказаў на пытанне "Пра што вы хацелі б прачытаць на старонках "ЧЗ"?

"Хацелася б, каб было на старонках штотыднёвіка больш прыгожых фотаздымкаў з цікавымі подпісамі. А то, гледзячы на "Чырвоную змену", можна падумаць, быццам гэта газета — прадукт нашага цяжкага часу, такая яна празмерна праблемная і сумная, амаль нічога няма ў ёй чыстага і светлага. Пішыце больш пра сапраўднае каханне...".

(Агент брокера, 18 год, Віцебская вобл.).

"Хацелася б прачытаць пра беларускі фальклор, напрыклад, "Пойце, дзевачкі, прыпевачкі". У наш час трэба плакаць, але не трэба страчваць надзею".

(Будаўнік, 24 гады, Салігорск).

"Хацелася б бачыць навіны навукі і тэхнікі, аб'явы аб умовах паступлення ў ВНУ Рэспублікі Беларусь".

(Настаўніца фізікі, Гродзенская вобл.).

"Я буду чытаць усё, што наблізіць Беларусь да сапраўднай незалежнасці".

(Інжынер, 33 гады, Мінск).

"...пра жыццё маладых сем'яў у вёсцы; праблемы выхавання дзяцей".

(Валянціна Рылач, 25 год, Гомель).

"Не трэба друкаваць праграму тэлебачання, друкуйце, калі ласка, творы пісьменнікаў беларускай дыяспары, больш матэрыялаў пра мастацтва, літаратуру, рэлігію...".

(Вучань 11 класа).

"Нам усё падабаецца ў "Чырвонцы" і назва таксама, а хацелася б прачытаць пра нашу мову, гістарычныя нарысы, хацелася б, каб вы працягвалі тэму "Падзвінне ў небяспецы".

(Сям'я, 15, 20 і 54 гады).

"Падабаецца ўсё, што друкуецца ў газеце, падтрымліваю тыя рубрыкі, што ёсць".

(Электрарадыёнавігатар, Клайпеда).

"Я вас вельмі люблю і выпісваю ўжо 33 гады. Люблю ўсё: і пра палітыку, і крымінальныя справы, і рубрыку "Адам і Ева...".

(Вера Васільеўна Шашкова, пенсіянерка, г.Мінск).

"...Палітыка, беларускі рок, старажытная Беларусь, гумар, секс".

(Бедны студэнт, 17 год).

"Цікаўлюся дзейнасцю школ і вучобай моладзі (у школах, ліцэях, семінарыях, гімназіях) і часы 1941—1944 гадоў".

(Г.Адамовіч, пенсіянер, Мядзельскі раён).

"Паглядзіце, як нашы дэпутаты гавораць! Ваш Лебядзько, якога вы ў сваёй газеце рэкламавалі, гаворыць на сваіх сходах толькі па-руску. Вось такія справы... Заўважыў, што мае дзеці прачыталі "Забытую славу"...

(Інжынер, Ашмяны).

"Люблю чытаць пра жыццё выдатных людзей, нашых продкаў".

(Вайсковец, 23 гады, Іркуцк).

"Газету чытаю з 1986 года. Зараз працую бібліятэкарам у сельскай бібліятэцы. Працаваць мне падабаецца. Газета "Чырвоная змена" заўсёды была для мяне самай лепшай. Напэўна, таму, што яна — беларуская газета. Зараз мне 20 гадоў, кожную пятніцу чакаю "Чырвонку". Калі вучылася, чакала любімую рубрыку "Перапіска", бо з яе першых выпускаў знайшла сабе добрых сябровак. "Чырвонай змене" хачу пажадаць застацца такой жа маладой, ветлівай, як зараз. Няхай друкуюцца матэрыялы пра моладзь, для моладзі, аб маралі, пра нашу родную Беларусь. Дзякуй вам за газету".

(Ала, Віцебская вобл.).

"...Больш астралогіі, гараскопаў, дэтэктываў, анекдотаў, гумару...".

(Аператар-праграміст, 20 год, Магілёў).

"Хачу прачытаць пра маладых паэтаў — Мінкіна, Шніпа, замежных беларускіх літаратараў".

(15 год, вучаніца 10 класа, Крупкі).

"Усё цікава, цікаўлюся вязаннем, шыццём, паэзіяй".

(Настаўніца матэматыкі, 46 год).

"Мудрыя парады, псіхалогію чалавечых паводзін, медыцынскія веды, фізкультурная асвета, новае ў навуцы, "ідавочнае-неверагоднае".

(Слесар, 25 гадоў, Мінск).

"Больш цікавага, нацыянальнага і ашаламляльнага".

(Урач, 28 год, Рагачоўскі раён).

"Больш звестак пра гісторыю Бацькаўшчыны".

(Сям'я ўрачоў, 38 і 39 год, Бабруйск).

"Усё, акрамя дзікага антыкамунізму, азлобленасці, жадання раздзяліць людзей".

(Інжынер-будаўнік, Караганда).

"Заставайцеся такімі, пераходзьце на "тарашкевіцу", зрабіце старонку "Вучымся размаўляць па-беларуску", а яшчэ нядрэнна было б з вашай дапамогай навучыцца размаўляць па-ўкраінску, па-польску, па-летувіску... А куды зніклі прыгожыя паненкі, "Дзяўчыны тыдня"? Я хачу, каб яны вярнуліся. Няхай будуць і "Хлопцы тыдня". Увогуле, газета ваша добрая, вядома, ёй далёка да "Нашай нівы", але чытаць можна".

(Слесар, 22 гады, Гомель).

"Змагайцеся за стварэнне Беларускага войска, за вольную, незалежную Беларусь".

(В.Астаповіч, афіцэр).

Скажам шчыра, мы не маем ілюзій наконт "масавасці" нашага штотыднёвіка. Але ж вельмі прыемна чытаць пра тое, як нас паважаюць, як падтрымліваюць наш пункт гледжання, як падзяляюць нашы перакананні. У "Чырвонай змене" зараз склаўся калектыў аднадумцаў, які не пасуе перад цяжкасцямі, што навaліліся на нас. З вашых лістоў, шаноўныя чытачы, можна зрабіць выснову: нас чытаюць – дый чытаюць уважліва – пераважна маладыя хлопцы і дзяўчаты, школьнікі, студэнты, рабочыя. Але пенсіянеры нас таксама не забываюць. Што ж выходзіць? Газета для ўсіх? Справа ў тым, што мы ніколі не ставілі перад сабой такой мэты – стаць універсальнай газетай, якая павінна адказваць на ўсе пытанні, газетай, прызначанай абсалютна для ўсіх слаёў грамадства. І наш невялічкі тыраж мы звязваем перш за ўсё не з абыякавасцю да нас чытачоў, а з тым, што ў наш надзвычай складаны час людзі шукаюць інфармацыю перш за ўсё канкратную, інфармацыю сённяшняга дня. Мы ж імкнёмся не толькі адлюстроўваць мінулае, але і зазірнуць у будучыню, дапамагчы нашым чытачам зрабіць высновы ў гэтым непрадказальным часе.

*На скрыжаванні*

ДЗЕНЬ ДОБРЫ, "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"!

Пішу табе не першы раз, не адзін год выпісваю, і шмат чаго трапляе мне пад густ. На старонках сваіх ты, "Чырвоная змена", друкуеш лісты чытачоў наконт таго, ці не замяніць назву газеты. Таксама і ў мяне раней такая думка сядзела ў галаве, але ці ж гэта самае галоўнае для газеты? Не магу сказаць дакладна, каму належыць думка, што газета павінна мець тую назву, якую ёй далі на самым пачатку — у год нараджэння. Здаецца, гэта было напісана ў рэдакцыйным артыкуле. Сябры, што зменіцца пасля таго, як мы пачнём кожную пятніцу даставаць з паштовай скрыні "Беларусь маладую" ці "Маладую Беларусь", альбо "Беларускую моладзь" ці "Моладзь Беларусі"? Адказ адзін — нічога. Проста, можа для некага знікне падстава, каб адпускаць кепікі ў бок назвы. А той выгляд газеты, які яна мае сягоння, даволі ўдалы. Зразумела, можна ўдасканальвацца, можна прапаноўваць чытачам новыя рубрыкі, можна пашырыць аб'ём выдання, калі надарыцца такая мажлівасць, можна шукаць новыя шляхі да чытача, але, на маю думку, назву мяняць ня варта. Газету выпісваюць зазвычай не дзеля наймення, а дзеля таго, што яна піша, як яна асвятляе падзеі, наколькі хутка яна рэагуе на праявы жыцця. Калі наша "Чырвоная змена" штотыднёвік, мы разумеем, што яна адпаведна гэтаму імкнецца працаваць. Дык пажадаем нашай газеце плёну пад час Беларускага Адраджэння і павелічэння колькасці чытачоў штомесяц.

А. Аўгейчык.

г. Светлагорск.

## Чырвоны — колер крыві

Паважаная рэдакцыя!

Піша вам сябра вашай газеты. Паважаю вас за адданасць і вернасць беларускаму слову, з цікавасцю чытаю артыкулы і вершы. З вялікім задавальненнем знаёмлюся з беларускай гісторыяй, з падборкамі "Крымінальнае бюро", "Неруш", "Крыніцы".

Але ж разам з гэтым хачу сказаць, што мне цяжка вас чытаць, узрост ужо не той. Вельмі ўжо многа ў вашым штотыднёвіку старонак, ажно 16. Скараціце вы сваю газету напалову, а падборкі можаце выдаваць па чарзе. Гэта будзе і вам лепш, і нам, чытачам.

Па-другое. Замяніце вы назву газеты. Вельмі прашу вас. Слова "чырвоная" апальвае сэрца. Так і ўяўляецца рэчка крыві, пралітая беларускімі сынамі ў гады сталінска-берыеўскага разгулу. Чаму б не назваць "Наша змена"? Гэта на самай справе адлюстроўвала б, што на змену нам расце новае пакаленне, якое піша артыкулы, вершы, выказвае думкі ў сваёй газеце. А можа вы яшчэ спадзяецеся, што вернуцца сталінскія часы?

І. Васюта,
ветэран працы.

г. Маладзечна.

*Зваротны адрас*

## Патрабуюцца "мяснікі"

Прачытаў у "Чырвонцы" артыкул У. Міхно "Крама" і вырашыў падзяліцца сваімі ўражаннямі.

Згодны. Крама і для мяне часцей асацыіруецца са словам крамола. У крамы сёння не патрабуюцца прадаўцы. А мяснікі, наогул, самыя вядомыя людзі ў горадзе. Мусіць, толькі прадаўцы, калі ўладкоўваюцца на працу, не цікавяцца заробкам. Бо заробак па ведамасці — так, сацыяльная дапамога па беспрацоўю.

У ашчадбанку горада Віцебска. Стаяць людзі ў чарзе бітую гадзіну, каб атрымаць трэцюю частку заробку. Грошай няма. Раптам прыходзіць кааператар, кладзе на свой рахунак сто тысяч. "Рады дзед, рада баба. Знесла курачка залатое яечка". Знайшлася работнікам банка праца. Так і жывём.

Што ў нас, пытаюся, за дзяржава такая, калі прафесар, хірург, педагог — жабракі?

Пачалі прадаваць для дзяцей казачкі пра белага бычка за пяцьдзесят рэ. Тут ужо не да казачак! І цукеркі для дзетак у нас розныя: блакітныя, зялёныя, жоўтыя, чырвоныя, ліпкія, мінулагоднія. Базы чакалі, каб выкінуць на прылавак па больш "увішнай" цане.

У кнігарнях — сапраўдны базар. Агата Крысці, мусіць, у труне перавярнулася б, каб ведала, што яе на некага мяняюць альбо "заганяюць" за брудныя грошы.

У маёй асабістай бібліятэцы ёсць трохтомнік класіка айчыннай палітыкі Міхаіла Гарбачова на беларускай мове. Прэзентавалі неяк на камсамольскім форуме. Каму б мне яго зараз бясплатна падарыць?

Беларускія кніжкі сталі папулярнымі з-за нізкага кошту. А ў гаспадарцы папера, як ведаем, вельмі патрэбная. А нядаўна я карту рэспублікі купіў за 1 рубель 76 капеек. Добрая карта, яшчэ са старых запасаў, на цыраце, ваду не прапускае. Выкарыстоўваю яе замест цыраты, метр якой ажно сто сорак рублёў. Частую на ёй сяброў гарбатаю. Вось вам і навукова-тэхнічны прагрэс.

Раней дзеці хоць звяркоў з паперы выразаць маглі. Сёння папера і так кусаецца, звяркоў іх таты і мамы прыносяць дадому ў кашальках, а нажніц няма. А мо нажніцамі наш урад абараняецца ад народа?

Кастусь Карнялюк.

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.



*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 25.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12